ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№17
(2523)

24 красавіка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

АЦЭНАЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ
ЯК СВЕДЧАННЕ
ЦЫВІЛІЗАВАНАСЦІ ЭКАНОМІКІ

## КАБ ВАС НЕ ПАДМАНУЛІ

**Працэс змен у нашай эканоміцы сёння суправаджаецца нараджэннем розных, невядомых раней форм дзейнасці. Адна з іх, якую пры ўмове цывілізаванасці, напрыклад, прыватызацыі ў нашай краіне, неабходна было запатрабаваць яшчэ ўчора, — ацэначная дзейнасць. Неяк адзін з маіх суразмоўцаў заўважыў: прыватызацыю, маўляў, можна параўнаць з бутэрбродам, у якога тры кампаненты — чорны хлеб, сметанковае масла, чорная (для кагосьці — чырвоная) ікра. Дык вось — цалкам бутэрброд некаторыя страўнікі, якія грэх абвінаваціць у адсутнасці апетыту, не ўспрымаюць. А (задаволіўшы, безумоўна, свае фізіялагічныя патрэбы) хлеб з маслам аддаюць іншым ці хутчэй — пакідаюць іншым. Хто спрытнейшы, той, вядомая справа, паспее яшчэ занесці свой зуб над слоем сметанковага масла. Астатнім і гэткага шчасця не ўбачыць.**

**Ужо пройдзены этап (ці ўсё ж такі — пройдзеныя этапы!) прыватызацыі неяк нецывілізавана, як лічаць некаторыя, абышліся без ацэнкі тых аб'ектаў і суб'ектаў, якія, карыстаючы падказаным вобразам-параўнаннем, можна назваць чорнай (альбо — каму ўжо як падабаецца — чырвонай) ікрой. Як і многія іншыя працэсы, ацэнка нерухомасці (безумоўна, ні ў якім разе не па віне тых людзей, каторыя ёю займаюцца) у нашай краіне страшэнна адстае. Здавалася б, усё проста: пакупнік павінен быць перакананы, што набывае нешта па найбольш выгаднай цане,**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

СТАРАЖЫТНЫ ГОРАД НА СЛУЧЫ



Будынак кінатэатра ў Слуцку.

*(Працяг фотарэпартажу на 5-й стар.).*

ВЯСНА. БЯРОЗАВІК.



**З асалодай частуецца бярозавым сокам Ірына ДАВАНЦЕЙЧЫК (на здымку). Яна працуе ў Пружанскім лясгасе, дзе заўсёды па вясне шмат здабываюць гэтага каштоўнага напітку. Ён не толькі прыемны на смак, але і вельмі карысны для здароўя.**

**Вопытныя соказборшчыкі ў лясгасе загадзя намячаюць дрэвы, наладжваюць у лесе невялікія базы. Тут кругласутачна дзяжураць чатыры-пяць чалавек. Усяго лясгас мае нарыхтаваць не менш пяцісот тон бярозавага соку.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

*ВІЦЕБСКАЙ РАТУШЫ — ЧАТЫРЫ СТАГОДДЗІ*

## «...К ОЗДОБЕ МЕСКОЙ»

Паводле вызначэння шматлікіх слоўнікаў, тэрмін "ратуша" абазначае орган самакіравання ў гарадах сярэднявечнай Еўропы, а таксама будынак, дзе гэтае самакіраванне размяшчаецца. Паходзіць слова ад нямецкага Rathaus (Rat — савет. Haus — дом) і ў беларускую мову прыйшло з польскай (ratusz). У лацінскай мове ёсць яшчэ адзін адпаведнік гэтаму паняццю — municipium (абшчына, якая кіруе сабой сама), ад якога ўтварылася слова "муніцыпалітэт", што шырока ўжываецца сёння ў многіх еўрапейскіх мовах.

На жаль, менавіта муніцыпалітэтамі сталі называць у нас апошнім часам гарадскія саветы, пакінуўшы па-за ўвагаю годны і раўназначны яму па сэнсе тэрмін "ратуша", які бытаваў у свядомасці насельнікаў Беларусі на працягу больш чым пяці стагоддзяў. Сёння разуменне яго амаль цалкам страчана, а нешматлікія будынкі беларускіх ратуш, якія захаваліся да нашага часу, паўсюдна выкарыстоўваюцца не па прызначэнні, што далёка не спрыяе рэабілітацыі іх гістарычнага сэнсу.

Віцебскай ратушы ў 1997 годзе спаўняецца 400 гадоў. Як праява культурнага нігілізму, у свядомасці большасці гараджан яна існуе зараз пад ганебнай назвай "каланча" (дазорная вышка пажарнай часткі), што, думаецца, не маглі сасніць нават у найгоршым сне ні паны Рады, ні каталіцкія ды праваслаўныя біскупы, ні пасы ад шляхты, што сабраліся на вальны сойм у Варшаве ў сакавіку 1597 года. А менавіта там у 17 дзень месяца каралём і вялікім князем Жыгімонтам III Вазам "з особливое ласки господарской" быў падпісаны Віцебску прывілей на самакіраванне, каб і гэты горад "з иншими месты нашими головными, яко в короне Польской, так и в Великом Княжестве Литовском поровнати".

Прывілей на вольнасці ў той час насіў найменне "магдэбургскага права" — ад імя ўсходненямецкага горада Магдэбурга, якому першаму быў нададзены такі дакумент яшчэ ў XIII стагоддзі. Атрымаўшы прывілей на магдэбургскае права, горад звычайнаператвараўся ў самастойную юрыдычную адзінку ў межах дзяржавы, а яго насельнікі набывалі дадатковыя правы, якімі не карысталіся іншыя жыхары краіны. Магдэбургскае места адразу выходзіла з-пад юрысдыкцыі караля, князя, старасты або ваяводы і атрымлівала магчымасць ствараць уласныя органы суда і кіравання.

Органам гарадскога самакіравання станавіўся магістрат, які складаўся з рады і лавы. У раду выбіраліся бурмістры і радцы (райцы), якія спраўлялі функцыі гарадской улады і суда па маёмасных і грамадзянскіх справах, у лаву — лаўнікі, якія пад старшынствам войта вырашалі судовыя крымінальныя справы. Месцам пасяджэнняў гарадскога магістрата быў будынак ратушы, які гараджане мелі права ўзвесці толькі пасля атрымання прывілея на вольнасці. "Мещане места Витебского ратуш к оздобе меской збудовати и фундовати повинны будут" — было запісана ў даравальнай грамаце Жыгімонта III.

Ратуша заўсёды ўзводзілася ў цэнтры грамадскага і эканамічнага жыцця — на рынкавай плошчы, якая ў Віцебску к канцу XVI стагоддзя перамясцілася з Ніжняга замка на Узгор'е. На першым паверсе ратушы звычайна размяшчаліся "крамніца", дзе гандлявалі рамеснымі вырабамі, "яткі" для захоўвання хлеба і мяса, "пастрыгальня" для стрыжкі сукна, "бочка мерная" для сыпучых і "медніца медная" для вадкіх прадуктаў, а таксама васкабойня, або "капніца", для таплення воску. Іншыя памяшканні адводзіліся для пасяджэнняў магістрата. Часам будынак ратушы аздабляўся звонам, уладкаваным на вежы, або гадзіннікам. Паколькі магдэбургскае права давала гараджанам прывілеі на асобныя льготы і перавагі пры гандлі, побач з ратушай звычайна ўзводзіліся гасціны двор і склады. "Дом гасціны" прызначаўся для прыезджых купцоў (гасцей). І ўтрымліваць яго меў права толькі горад, папаўняючы атрыманымі даходамі сваю скарбонку. Уласнасцю места былі таксама склады і крамы на рынку, за карыстанне якімі з гандляроў спаганялася арэндная плата.

Як выглядала першая віцебская ратуша, сёння сказаць складана. Напэўна, так, як і большасць аналагічных збудаванняў свайго часу. У прывілеі Жыгімонта III чытаем: "К тому теж крамницы и коморы для складання речей и товаров, так теж ятки мясные, пострыгальню, торговое, перевоз на реке Двине и на Лучосе, лазню мескую на пожиток того места збудовати вольность надаем, дом тех гостиный для людей приезджих купецких, с вагою мескою". Вядома, што на тагачаснай ратушы знаходзіўся звон, які пасля

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

БЕЛАРУСЬ — УКРАІНА



Адбыўся афіцыйны візіт у Беларусь міністра замежных спраў Украіны Генадзя Удавенкі. Г. Удавенка быў прыняты Прэзідэнтам А. Лукашэнкам, адбылася яго сустрэча з прэм'ер- міністрам С. Лінгам, іншымі афіцыйнымі асобамі. "У беларуска-ўкраінскіх адносінах няма практычна ніякіх праблем", — заявіў А. Лукашэнка.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сяргея ЛІНГА з міністрам замежных спраў Украіны Генадзем УДАВЕНКАМ.

МІЖНАРОДНАЯ АРЭНА

## МІНСК НЕ БАЧЫЦЬ ПЕРАШКОД

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Аўстрыі Валянцін Фісенка, які з'яўляецца кіраўніком пастаяннай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у АБСЕ, выступіў на пасяджэнні Пастаяннага савета гэтай арганізацыі, якое прайшло ў Вене.

Як паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі МЗС рэспублікі, беларускі дыпламат прыцягнуў увагу членаў савета да прайшоўшай у Мінску міжнароднай канферэнцыі "Перспектывы стварэння ў Цэтральнай і Усходняй Еўропе прасторы, свабоднай ад ядзерчай зброі", удзел у якой прыняў Прэзідэнт Беларусі / сандр Лукашэнка. Валянцін Фісенка падкрэсліў, ш. існуючай у Еўропе ваеннапалітычнай абстаноўцы Беларусь не бачыць перашкод на шляху падпісання дакумента аб неразмяшчэнні ядзернай зброі ў рэгіёне.

СУСТРЭЧА Ў ПРЭЗІДЭНТА

## ДЗЯКУЙ, «КОКА-КОЛА»

Шляхі далейшага супрацоўніцтва Беларусі з кампаніяй "Кока-Кола" былі разгледжаны на сустрэчы яе прадстаўнікоў з Прэзідэнтам рэспублікі Аляксандрам Лукашэнкам. Дэлегацыю гасцей узначаліў прэзідэнт кампаніі "Кока-Кола" Мухтар Кент.

"Мы ўдзячныя гэтай сусветна вядомай карпарацыі па вытворчасці безалкагольных напіткаў за тую ўвагу, якую яна аказвае нашай краіне, — сказаў у сваім прывітанні А. Лукашэнка. — Са свайго боку, мы будзем падтрымліваць добрыя намеры ў сілу нашых магчымасцей".

За два гады работы на беларускім рынку кампанія інвесціравала ў яго развіццё 34 мільёны долараў ЗША. Аб'ём продажу прадукцыі павялічыўся больш чым у 10 разоў.

ТАВАРЫ З КІПРА




14 красавіка ў Мінску міністр знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь Міхаіл Марыніч адкрыў выставу тавараў Рэспублікі Кіпр. У адкрыцці экспазіцыі прыняў удзел міністр гандлю, прамысловасці і турызму Рэспублікі Кіпр Кіпрыакас Хрыстофі.

НА ЗДЫМКУ: выставу адкрывае Міхаіл МАРЫНІЧ.

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## З'ЕЗД САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

10—13 красавіка ў Мінску гасцілі кіраўнікі ўсіх сацыял-дэмакратычных арганізацый так званага Балта-Чарнаморскага рагіёна па запрашэнню Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада". Прадстаўнікі з Украіны, Расіі, Польшчы, Літвы, Латвіі, а таксама з Германіі і Швецыі ўзялі ўдзел у міжнародным семінары "Асаблівасці трансфармацыі посттаталітарнага грамадства ў дэмакратычнае ў Беларусі", які арганізавалі беларускае аддзяленне фонду Фрыдрыха Эберта і фонд братоў Луцкевічаў. Яны прысутнічалі на другім нечарговым з'ездзе БСДП НГ.

З'езд "Народнай грамады" адбыўся амаль паўпадпольна ў памяшканні, якое для такіх мэтаў наўрад ці прызначана: у былой сталоўцы ВПШ. Арганізатары тлумачаць гэта тым, што гаспадары літаральна ўсіх памяшканняў, да якіх яны звярталіся, адмовілі, баючыся праследу. Галоўнымі пытаннямі, якія павінен быў зацвердзіць з'езд беларускіх сацыял-дэмакратаў, было азначана зацвярджэнне сімволікі і выбранне старшыні ЦК партыі.

У якасці сімволікі партыі з'езд зацвердзіў стылізаваны бела-чырвона-белы сцяг з ружай у цэнтры. Старшынёй Цэнтральнага камітэта партыі быў абраны Мікалай Статкевіч.

БЕЛАРУСКІЯ ГАСТРОЛІ

## АПЛАДЗІРУЕ ПРЭЗІДЭНТ БРАЗІЛІІ

11 красавіка ў горадзе Манаусе (Бразілія) у рамках Першага міжнароднага фестывалю беларуская оперная трупа дала прадстаўленне оперы Джузепе Вердзі "Травіята". У галоўных ролях выступілі Наталля Кастэнка, Эдуард Пелагейчанка, Аркадзь Саўчанка, дырыжыраваў Урс Шнайдэр (Германія).

На спектаклі прысутнічаў прэзідэнт Бразіліі Фернанда Энрыке Кардоса, які прыляцеў у Манаус са сталіцы спецыяльным рэйсам у суправаджэнні шматлікіх дзяржаўных дзеячаў.

УЗНАГАРОДЫ «БАТЛЕР ТРАСТ»

## ПРЫНЦЭСА І МІНСКАЯ ШКОЛЬНІЦА

У музеі каралевы Вікторыі і прынца Альберта ў Лондане адбылася ўручэнне штогадовай узнагароды "Батлер траст" за асобыя заслугі ў выхаваўчай і гуманітарнай галінах.

Сярод узнагароджаных быў афіцэр Р. Гібсан па праву лічыцца энтузіястам развіцця брытана-бе ус-кага супрацоўніцтва.

Як паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага Міністэрства замежных спраў, у віншаванні дыпламатаў данай прэміі прынялі ўдзел саветнік пасольства Беларусі ў Вялікабрытаніі В. Галубовіч і мінская школьніца В. Наварко. Наведанне белар кай дзяўчынкай Вялікабрытаніі ў якасці "маленькаг ла Рэспублікі Беларусь" стала магчымым дзякуючы садзейнічанню нашага дыпламатычнага прадстаўніцтва.

Патрон фонду "Батлер траст" прынцэса Ганна, дачка каралевы Лізаветы ІІ, якая прымала ўдзел у цырымоніі, правяла гутарку з юнай прадстаўніцай нашай рэспублікі. Іх размова прыцягнула ўвагу прадстаўнікоў англійскай прэсы.

ВЕСТКІ З КАМАРОЎКІ

## «СЛАВЯНСКІ НАБАТ»

Дзяржаўнае прадпрыемства "Мінскі Камароўскі рынак" вырашыла займець уласнае друкаванае выданне. Газета, якая атрымала назву "Славянскі набат", ужо зарэгістравана ў Дзяржкамдруку. Яе тэматыкай будзе асвятленне працоўнага жыцця калектыву, друкаванне розных нарматыўных актаў, якія датычацца прадпрыемства, а таксама "матэрыялаў у падтрымку палітыкі Прэзідэнта і таго курса, які ён праводзіць".

"Славянскі набат" плануюць выдаваць на рускай і беларускай мовах пяць разоў на тыдзень.

ДЭМАГРАФІЯ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА СТАРЭЕ

Статыстыка сведчыць, што за мінулы год натуральнае зніжэнне насельніцтва ў Гомельскай вобласці склала 6 700 чалавек. Пры сярэдняй нараджальнасці ў дзень 42 немаўлят паміраюць 59 чалавек. Такая тэндэнцыя з нараджальнасцю існуе ўжо не першы год. Сказваецца агульнае старэнне насельніцтва вобласці, якое назіраецца ўжо даўно, а асабліва — пасля чарнобыльскай катастрофы. Цяпер на Гомельшчыне больш паловы жыхароў маюць узрост звыш 50 гадоў.

БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

## ТОЛЬКІ ДЛЯ КАЛГАСАЎ

Аб'ёмы здабычы беларускай нафты ў гэтым годзе складуць 1 мільён 200 тысяч тон, што дазволіць атрымаць у працэсе перапрацоўкі 140 тысяч тон бензіну і 300 тысяч тон дызельнага паліва. Гэта гаручае, як вядома, рэалізуецца па фіксаваных цэнах, якія значна ніжэйшыя за цэны на нафтапрадукты, выробленыя з купленай сыравіны. Менавіта таму, улічваючы цяжкасці сёлетняй пасяўной кампаніі, у гэтым годзе 90—95 працэнтаў айчыннага гаручага будзе накіравана на патрэбы сельскай гаспадаркі. І кожны адміністрацыйны раён атрымае па 90 тон бензіну і 240 тон саляркі.

СХОД БНПА



У Беларускай політэхнічнай акадэміі адбыўся сход членаў Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА). Былі абмеркаваны і прыняты асноўныя напрамкі дзейнасці гэтага буйнейшага грамадскага аб'яднання прамыслоўцаў у бягучым годзе. У працы сходу прыняў удзел прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі сходу БНПА знаёмяцца з выставай аргтэхнікі.

МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ

## БЕСПРАЦОЎЕ АДСТУПАЕ

Калі на 1 студзеня 1997 года ў Беларусі было афіцыйна зарэгістравана 182 480 беспрацоўных, то на 1 красавіка гэты паказчык знізіўся да 177 965.

І агульны ўзровень беспрацоўя да агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва на сёння складае 3,2 працэнта. Аналіз паказвае, што менш за ўсё беспрацоўных у Мінску — 1,9 працэнта, а найбольш у Гомельскай вобласці — 4,1 працэнта...

Разам з тым расце колькасць вакансій. Сёння ў краіне пустуюць 21 168 рабочых месцаў, з іх для рабочых — 16 489.

ЭКАЛОГІЯ

## САЛІГОРСКІЯ ШТРАФНІКІ

За мінулы год кіраўніцтву аб'яднання "Беларуськалій" паступіла трыста скаргаў ад жыхароў навакольных вёсак на тое, што ў месцах шахтных падпрацовак дэфармуюцца жылыя дамы, прысядзібныя пабудовы, гінуць садовыя насаджэнні. Задаволена крыху больш чым палавіна скаргаў. І ўсё роўна затраты на кампенсацыю урону, на рамонт пабудоў, калодзежаў перавысілі мільярд рублёў. Сто мільёнаў рублёў выплачана ў выглядзе кампенсацыі за гібель пладовых дрэў, кустоў.

"Беларуськалій" штомесяц плаціць каля 6 мільярдаў рублёў экалагічнага падатку.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ПРОЦІДЫФТЭРЫЙНАЯ КАМПАНІЯ

Масавая вакцынацыя насельніцтва Беларусі супраць дыфтэрыі, якая праводзілася ў маі-чэрвені мінулага года, падобна, дала свае станоўчыя вынікі. Захворванне на дыфтэрыю ў рэспубліцы знізілася больш чым у паўтара раза. Калі ў 1995 годзе было зафіксавана 322 выпадкі дыфтэрыі, то ў мінулым — 179.

Раней ад дыфтэрыі штогод паміралі 6—7 чалавек, летась жа быў зарэгістраваны ўсяго адзін такі выпадак. Спецыялісты мяркуюць, што цяпер захворванне на дыфтэрыю знізіцца яшчэ больш, таму што асноўная частка паражоных ёю ў мінулым годзе захварэла яшчэ да кампаніі па імунізацыі насельніцтва, у ходзе якой было прывіта звыш 6 мільёнаў чалавек.

ЗРОБІМ САМІ

## ТРАЛЕЙБУС БЕЗ ПРАВАДОЎ

Доследная мадэль тралейбуса-"гармоніка" з нізкай пасадкай будзе выраблена на вытворчым аб'яднанні "Белкамунмаш" у другой палове сёлетняга года, а масавая вытворчасць яго пачнецца праз год. Для руху тралейбуса будзе выкарыстоўвацца пераменны ток, што дазволіць значна скараціць затраты электраэнергіі. Больш таго, устаноўка акумулятараў дасць магчымасць новай машыне перамяшчацца без кантакта з электрасеткай на працягу 1,5—2 кіламетраў. Умяшчальнасць тралейбуса 333-й мадэлі — 166 пасажырскіх месцаў.

На ВА "Белкамунмаш" распрацаваны таксама прыныпова новы транспартны сродак — электробус. Рух машыны будуць забяспечваць акумулятары — малекулярныя накапляльнікі, падзарадка якіх будзе ажыццяўляцца па меры расходавання энергіі.

# ПРАЦУЕМ І ВУЧЫМСЯ Ў ІМЯ АГУЛЬНАЙ БУДУЧЫНІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

членаў, дапамагаць развіццю і ўмацаванню партнёрскіх узаемаадносін паміж імі; забяспечваць пастаянны рост прафесіяналізму кіруючага звяна праз свабодны абмен інфармацыяй і вопытам між краінамі".

Адным з асноўных накірункаў дзейнасці асацыяцыі з'яўляецца міжнародная праграма стажыровак. У мінулым годзе ўдзельнікамі праграмы сталі больш 8 тысяч чалавек з 89 краін. Любая фірма з краіны-члена з яе дапамогай можа заказаць сабе на працу кваліфікаванага замежнага спецыяліста.

Тэматычныя праграмы AIESEC умоўна можна падраздзяліць на глабальныя і неглабальныя. Што да глабальнай праблемы, то на пэўны перыяд часу выбіраецца асноўная тэма, на якой і канцэнтруецца дзейнасць арганізацыі па ўсім свеце. Так, у 1978—1980 гадах распрацоўвалася тэма "Міжнародны гандаль", у 1980—1982 — "Энергія — элемент сусветнай эканомікі", 1987—1989 — "Да глабальнай эканомікі: час кааперацыі". А глабальная тэма на 1996—2000 гады гучыць так: "Узаемазалежнасць — працуем і вучымся ў імя агульнай будучыні" і ўключае ў сябе такія падтэмы, як сацыяльная адказнасць карпарацый, прадпрымальніцтва, праблемы развіцця інфармацыйнага грамадства, вышэйшая адукацыя і навучанне і міжкультурнае ўзаемаразуменне. Акрамя гэтага, ёсць неглабальная праграма і шматлікія камерцыйныя праекты.

Прадстаўніцтва AIESEC у Беларусі існуе на базе Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта з 1992 года. За пяць гадоў нашым лакальным камітэтам была праведзена значная колькасць праектаў самага рознага профілю, а сярод партнёраў — Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, Аўдытарская палата, кампаніі Fico, PUSHE-інвест, Bel Com Datol і іншыя.

Так, у сакавіку 1993 года быў праведзены міжнародны семінар "7+1", які тычыўся стану валютна-фінансавай сістэмы Беларусі і краін СНД. У семінары ўдзельнічалі прадстаўнікі нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, Міжнароднага валютнага фонду, Акадэміі навук Беларусі і іншых арганізацый. У маі 1993-га мінскі лакальны камітэт сумесна з лакальным камітэтам г. Манрэаля (Канада) ажыццявілі праект "Даследаванне магчымасцей інвестыцый у эканоміку Беларусі". У лістападзе таго ж года прайшоў міжнародны семінар "Аўдыт-93", прысвечаны развіццю аўдытарскіх службаў у рэспубліцы. На семінары выступалі прадстаўнікі Міністэрства фінансаў, Аўдытарскай палаты і шматлікіх аўдытарскіх кампаній. У красавіку 1994-га — канферэнцыя "Праблемы прыватызацыі ў Рэспубліцы Беларусь" з удзелам Міндзяржмаёмасці, інвестыцыйнага фонду "Народны капітал" і інш. Цікавы семінар быў праведзены і вясной мінулага года — "Адкрытая сістэма для офісаў, банкаў, прадпрыемстваў". Сярод удзельнікаў былі такія вядомыя ў рэспубліцы фірмы, як BelABM, BelHard, Bel Com Datol. Семінар праводзіўся для патэнцыяльных спажыўцоў навінак камп'ютэрнага рынку: прадстаўнікоў банкаў, фінансавых кампаній, міністэрстваў.

Найбольш цесныя сувязі беларускае прадстаўніцтва AIESEC падтрымлівае з аддзяленнямі асацыяцыі па краінах СНД, а таксама Швейцарыі і Гер[illegible]ніі. Што да апошняй, то н[illegible]ажыроўку ў Германію за 1[illegible]—1996 гады выехала 16 беларускіх студэнтаў, а чарговы сумесны беларуска-германскі праект "Bissnes Contact-97" запланаваны на жнівень-верасень гэтага года. А ўсяго на стажыр[illegible] за гэтыя пяць гадоў было а[illegible]ўлена каля 30 студэнтаў і маладых спецыялістаў. Прынята з-за мяжы — 10. Пры гэтым 2/3 з іх за апошні час. Праўда, яшчэ і сёння пэўныя цяжкасці пры рэалізацыі міжнародных праграм стварае візавы рэжым нашай краіны.

І яшчэ адзін эфектыўны накірунак дзейнасці мінскага камітэта AIESEC — правядзенне комплекснай праграмы "Дзень кар'еры", накіраванай на прадастаўленне маладым людзям магчымасці вызначыцца на рынку працы рэспублікі, пазнаёміцца з патрабаваннямі, што прад'яўляюць кампаніі-наймальніцы. Акрамя таго, моладзь можа непасрэдна кантактаваць са спецыялістамі кампаній, дамовіцца аб працы ці праходжанні практыкі. Вынікі анкетавання студэнтаў заносяцца ў банк даных, так што фірмы маюць магчымасць карыстацца гэтай інфармацыяй пры адборы патрэбных ім спецыялістаў. Так, пасля чарговага Дня кар'еры, што праходзіў у чэрвені мінулага года, працоўныя месцы для маладых спецыялістаў прадаставілі фірмы "Дыфор", "Лагамарк", Мінскі транзітны банк і кампанія "МакДональдс". Дарэчы, колькасць беспрацоўнай моладзі на той час складала 46 працэнтаў ад агульнага ліку зарэгістраваных беспрацоўных. І наўрад ці ўсе гэтыя людзі не змаглі знайсці працу таму, што былі зусім нікому не патрэбнымі. Хутчэй за ўсё, лічаць у AIESEC, праблема ў тым, што мы проста не ўмеем шукаць працу. Таму AIESEC і стараецца дапамагчы кожнаму ўсвядоміць, чаго ён дакладна хоча і што можа рабіць, знайсці сваё месца на рынку працы. Бо кожны чалавек сам па сабе унікальны, і галоўная яго задача — здолець увязаць гэтую унікальнасць з патрэбамі грамадства. І яшчэ, як кажуць у AIESEC, "калі мы не знойдзем шляху да мэты, мы яго пракладзем".

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

## ІВАНАЎСКІЯ ХУТАРАНЕ



**Каля паўтары сотні хутароў раскінулася ў паўднёвай частцы Іванаўскага раёна на Брэстчыне: не ўсе перасяліліся некалі ў больш буйныя вёскі. Ёсць такія, дзе жывуць 3—5 сямей, а ёсць і іншыя, дзе ў старым дамку дажывае свой век пажылы чалавек за два-тры кіламетры ад не менш "маладога" суседа. Вось і даводзіцца мясцоваму калгасу "Кастрычнік", на чыіх землях ёсць хутары, чым можа дапамагаць гэтым людзям. Напрыклад, вясной ім прадаюць па льготных цэнах насенны матэрыял, выдзяляюць калгасных коней узараць агароды.**

**НА ЗДЫМКАХ: на адным з хутароў жывуць калгасны механізатар Андрэй КАЗЛАВЕЦ і яго жонка — калгасніца Таццяна Андрэеўна, у якіх восем дзяцей. Сёння з імі сыны-трактарысты Андрэй і Валерый, унукі Дзіма і Наташа; сямідзесяцігадовы Іван ДРАЦЭВІЧ жыве на хутары Стромец. Трымае ўсялякую жыўнасць, пчол, а нядаўна нават каня набыў, каб араць агарод і нікому не кланяцца.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



## *НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ*

### ІМЕМ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Пашыраюць свае межы, пераважна за кошт індывідуальнай забудовы, старажытныя Ашмяны. Таму ў горадзе з'яўляюцца новыя вуліцы. Адна з іх нарадзілася ў бягучым годзе і па рашэнню райвыканкома названа імем выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Адметна, што адным з забудоўшчыкаў тут значыцца А. Багдановіч, работнік мясцовых электрасетак.

Застаецца дадаць, што грамадскасць Прынёмання рыхтуецца шырока адзначыць 80-я ўгодкі з дня смерці паэта, якія прыпадаюць на 25 мая 1997 года.

### ДАРУНАК БАРЫСА КІТА

Апошнім часам узмацніліся кантакты навагрудчан са сваім знакамітым земляком Барысам Кітам, вучоным у галіне астранаўтыкі, асветнікам і педагогам. У перадваенныя гады Барыс Уладзіміравіч працаваў у Віленскай і Навагрудскай беларускіх гімназіях, арганізаваў у Заходняй Беларусі шэраг беларускіх школ. Пражываючы пасля вайны ў ЗША і Германіі, Б. Кіт нямала зрабіў для беларускай справы. Не так даўно яму прысвоена званне Ганаровага грамадзяніна горада Навагрудка. А зусім нядаўна акадэмік астранаўтыкі пераслаў з Франкфурта-на-Майне, дзе зараз жыве, асабісты архіў. Ён зойме пачэснае месца ў экспазіцыі гісторыка-краязнаўчага музея.

### ДАРОГА ДАЎЖЫНЁЙ У СТАГОДДЗЕ

Пра шматвяковую гісторыю мястэчка Турэц, што ў Карэліцкім раёне, цікава апавядаюць экспазіцыі тутэйшага музея. Тут многа прадметаў і дакументаў сівой даўніны, а таксама нашага стагоддзя. Праўленне мясцовага калгаса прадаставіла для музейнай установы асобны будынак у цэнтры паселішча, побач з прыгожай Пакроўскай царквою.

Музей, які знаходзіцца яшчэ ў стадыі станаўлення, мяркуе сабраць матэрыялы пра жыццё такіх землякоў, як рэпрэсіраваны ў 30-х гадах паэт Анатоль Дзяркач і спявак сусветнай славы Пётра Конюх, які памёр у жніўні 1994 года і пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку (ЗША). Дарэчы, у Турцы жыве родны брат П. Конюха, а ў Навагрудку — дзве яго сястры.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

## КАНВЕРСІЯ

# БЕЛАРУСЬ ЗАСТАЕЦЦА АДЗІН НА АДЗІН З ЭКАЛАГІЧНЫМІ ПРАБЛЕМАМІ

Як стала вядома "Белорусской деловой газете", з 9 па 13 чэрвеня ў Мінску ў рамках рэалізацыі пагаднення паміж абароннымі ведамствамі Беларусі і ЗША адносна аднаўлення экалогіі на былых аб'ектах і пазіцыях ракетных войск стратэгічнага прызначэння пройдзе 4-я міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Эфектыўнае паўторнае выкарыстанне былых ваенных аб'ектаў: экалагічныя і эканамічныя аспекты дэмілітарызацыі". Мерапрыемства будзе арганізавана рэспубліканскім Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Міністэрствам па надзвычайных становішчах, ваенным ведамствам, Акадэміяй навук Беларусі і Агенцтвам па спецыяльных узбраеннях Мінабароны ЗША.

Сёння, калі ў многіх краінах ідуць працэсы канверсіі і дэмілітарызацыі, актывізавалася міжнароднае супрацоўніцтва ў сферы паўторнага выкарыстання былых армейскіх гарадкоў у мірных мэтах. Беларускі бок, усведамляючы, што вырашыць звязаныя з гэтым экалагічныя і эканамічныя праблемы ўласнымі сіламі будзе цяжка, у 1994 годзе выступіў з ініцыятывай правядзення 1-га міжнароднага семінара "Экалагічныя праблемы дэмілітарызацыі". Пазней Беларуссю і ЗША былі праведзены яшчэ два падобныя сумесныя мерапрыемствы.

Беларусь асабліва мае патрэбу ў заходніх субсідыях для рэалізацыі праектаў па ліквідацыі негатыўных экалагічных вынікаў у месцах былых дыслакацый расійскіх ракетных аб'ектаў. Бо такіх аб'ектаў у нашай краіне каля 20. Яны раскіданы па чатырнаццаці раёнах Беларусі. Найбольш складаная сітуацыя ў Лідскім, Мазырскім, Пастаўскім і Петрыкаўскім раёнах, дзе яшчэ нядаўна размяшчаліся палкі РВСН, што мелі на ўзбраенні мабільныя комплексы. Як вядома, згодна з дагаворам, падпісаным яшчэ ў часы СССР, расійскі бок, выводзячы свае ракеты, не браў на сябе ніякіх абавязацельстваў па рэкультывацыі зямель. Між тым мізэрны дзяржбюджэт Беларусі не дазваляў нават планаваць якія-небудзь аднаўленчыя мерапрыемствы. Таму ўлады вырашылі звярнуцца па дапамогу да ЗША, якія зацікаўлены ў дэмілітарызацыі нашай краіны і вельмі сур'ёзна ставяцца да праблем экалогіі.

Беларусь ужо атрымала ў падарунак унікальную радыяцыйную лабараторыю на базе самалёта "АН-26", якая дазваляе фіксіраваць самыя малыя хістанні ўзроўню радыяцыі ў раёне аб'ектаў РВСН. Акрамя таго, чакалася, што Беларусі будзе выдзелена каля 4 мільёнаў долараў для аднаўлення флоры і фауны ваенных гарадкоў. І гэта далёка не адзіныя амерыканскія грашовыя ін'екцыі ў нашы праграмы раззбраення і канверсіі. У 1986 годзе для знішчэння бронетанкавай тэхнікі ЗША паставілі на танкарамонтны завод у Барысаве тэхналагічнае і дапаможнае абсталяванне на суму 2,5 мільёна долараў. Неўзабаве павінны былі паступіць яшчэ 40 мільёнаў долараў у рамках праграмы ўзаемнага скарачэння пагрозы (закон Нана-Лугара).

Аднак апошнія палітычныя падзеі ў Беларусі, звязаныя са згортваннем дэмакратычных свабод і антыамерыканскай істэрыяй, прымушаюць сумнявацца ў ажыццяўленні гэтых планаў. Выслаўшы першага сакратара пасольства ЗША Сержа Аляксандрава, не дапусціўшы на сваю тэрыторыю выканаўчага дырэктара Фонду Сораса Пітэра Берна, Беларусь пазбавіла сябе магчымасці атрымаць валютныя сродкі. Не выключана, што застанецца нерэалізаваным і праект праграмы па дэмілітарызацыі аб'ектаў РВСН. Па некаторых звестках, пад сумненнем знаходзіцца фінансавая падтрымка праграмы аказання дапамогі ў ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС. Прычына тая ж: імкненне беларускіх уладаў кантраляваць працэс паступлення і размеркавання гуманітарных грузаў.

Так што Беларусі, хутчэй за ўсё, прыйдзецца вырашаць свае праблемы самастойна. Спадзявацца на садзейнічанне Расіі, якая сама мае патрэбу ў сродках, наўрад ці мае сэнс. Хаця яшчэ год назад супрацоўніцтва ў гэтай сферы здавалася вельмі перспектыўным. У красавіку 1996 года на міжнародным семінары "Канверсія абаронных прадпрыемстваў ва ўсходнееўрапейскіх краінах: праблемы і перспектывы" намеснік міністра прамысловасці Уладзімір Бабкоў адзначаў: "Канверсія — вельмі працяглы працэс, разлічаны не на пяць гадоў, і мы будзем імкнуцца максімальна пераняць вопыт усіх дзяржаў у данай галіне".

**Сяргей АНІСЬКО.**
**("Белорусская деловая газета").**

*ФОТАРЭПАРТАЖ З КАНАДЫ*

# У КВЕБЕКУ – КАВАЛАЧАК БЕЛАРУСІ

Здымкі, што нядаўна перадаў, вярнуўшыся з Амерыкі, мінчанін, выдавец газеты "Беларускі калекцыянер" Уладзімір Цярохін, усцешваюць, радуюць.

Вось нашы суайчыннікі ў нацыянальных строях. Вось канадскія беларусы ў Квебеку ладзяць калядаванне. А вось беларуская экспазіцыя ў Міжнацыянальным культурным цэнтры ў Квебеку.

— Пабываўшы ў Манрэалі, — расказвае Уладзімір Цярохін, — я па-добраму падзівіўся, як цёпла, паважліва ставяцца да беларускасці нашы суродзічы. Той стэнд, тая экспазіцыя, якую яны наладзілі ў Міжнацыянальным культурным цэнтры правінцыі Квебек, ці не лепшыя сярод усіх. Прыемна, што і ў Канадзе нашы землякі пачуваюць сябе беларусамі.

Ужо даўно ў Квебеку існуе Згуртаванне беларусаў. На чале яго — Анатоль Хрэноўскі. Намеснік старшыні — Уладзімір Бельмач. Беларусы Квебека выдаюць свой часопіс "Прамень", ладзяць нацыянальныя святы. А галоўнае — уважліва сочаць за падзеямі на Беларусі, душой і сэрцам перажываюць за тое, што адбываецца на Бацькаўшчыне. Здараецца, бываюць на Беларусі, падтрымліваюць сувязі з малой і вялікай радзімай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**





# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: УЗЛЁТ І ПРАВАЛ

Спаслацца тут можна на рашэнні кастрычніцкага (1925) Пленума ЦК КП(б)Б, у якіх запісана: "Пры правядзенні нацпалітыкі ў школьнай справе ў шэрагу таварышаў сустракаюцца памылкі дваякага роду. Адна з іх заключаецца ў імкненні заняць пасіўную пазіцыю ў гэтым пытанні і адмовіцца ад ініцыятывы зверху. Між тым, працяглая прыгнечанасць і ўціск беларускай і яўрэйскай культуры прывялі да ўкаранення нават у масах насельніцтва гэтых нацыянальнасцей погляду на беларускую і яўрэйскую мовы, як на непаўнапраўныя. Пры гэтых варунках адмова ад ініцыятывы зверху (папярэдні накід сеткі, агітацыя за навучанне дзяцей на роднай мове і г. д.) азначала б аб'ектыўна ўступку русіфікатарскім традыцыям, і таму не адпавядае нацыянальнай палітыцы партыі. Другая памылка выяўляецца ў спробе праводзіць нацпалітыку ў школьнай справе голымі метадамі адміністравання і камандавання, што Пленум прызнае зусім недапушчальным".

Карысны ўрок беларусізацыі 20-х гадоў — асабліва пільная ўвага партыі і ўрада да выкладчыцкага корпуса вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў. Акурат ён больш за ўсё ўпарціўся беларусізацыі, паколькі яму найцяжэй было перавучыцца з рускай мовы на беларускую. Каб дамагчыся хутчэйшага зруху, давялося свядома пайсці нават на ўвядзенне рознага характару захвочвальных мер.

Засяроджванне ўвагі дзяржаўных і партыйных органаў на прабдеме беларусізацыі ўсіх звенняў сістэмы народнай асветы, плённая работа ў гэтым напрамку яе кіруючых кадраў, педагагічнай інтэлігенцыі далі станоўчыя вынікі. У 1926/27 навучальным годзе з агульнага ліку працоўных школ чатырох- і сямігодак на беларускія прыпадала 85 і 67 працэнтаў школ. Праз два гады з агульнай колькасці школ чатырохгодак 5 818 беларускіх было 5 456, адпаведна сямігодак — 372 і 279. Беларуская мова стала абавязковым прадметам выкладання ў рускіх, яўрэйскіх, польскіх і іншых нацыянальных школах рэспублікі.

Вызначаныя ўрадам тэрміны беларусізацыі ў асноўным захоўваліся ў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе, асабліва педагагічнага профілю. Так, у 1926/27 навучальным годзе з 14 педагагічных тэхнікумаў на беларускай мове працавала 10, яўрэйскай — 3, польскай — 1. Выкладанне прадметаў у сельскагаспадарчых тэхнікумах удалося беларусізаваць на 63 працэнты, сельскагаспадарчых школах — на 67, прафшколах — на 60, рабфаках — на 69 і толькі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце — пакуль што на 31 працэнт. Цалкам вялося выкладанне прадметаў на беларускай мове ў Магілёўскай савпартшколе першай ступені і такой жа школе другой ступені ў Віцебску, ва ўсіх пунктах па ліквідацыі непісьменнасці і ў школах для малапісьменных, што абслугоўвалі беларускае насельніцтва, у першых групах (г. зн. у першы год навучання) школ павышанага тыпу і школах рабочай моладзі.

Станоўчыя зрухі прыкметна абазначыліся і на ўсіх астатніх напрамках беларусізацыі. Паўнапраўнай гаспадыняй уваходзіла беларуская мова ў тэатры, навуку, новымі цікавымі творамі папаўнялася мастацкая літаратура, шырокім фронтам вялося вывучэнне гісторыі і культуры беларускага народа, значна павялічылася ўдзельная вага беларусаў у складзе кіруючых работнікаў партыйнага, савецкага, прафсаюзнага і камсамольскага апаратаў. Ужо ў 1927 годзе з агульнай колькасці членаў мястэчковых саветаў дэпутатаў працоўных беларусаў было 53,2 працэнта, яўрэяў — 40,5, палякаў — 2,2, вялікаросаў — 2,5, гарадскіх адпаведна — 45,1, 30,6, 2,5 і 14,5 працэнта. Праўда, гэта было значна ніжэй за ўдзельную вагу беларусаў у агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі. Недастатковае прадстаўніцтва беларусаў у мястэчковых і гарадскіх саветах тлумачылася тым, што ў гэтых тыпах рассялення людзей усё яшчэ нізкі працэнт прыпадаў на карэнных жыхароў рэспублікі. Затое намнога лепш былі прадстаўлены беларусы ў больш высокіх эшалонах улады і органах кіравання.

## «...У ПОСПЕХАХ... ШМАТ НАДВОРНАГА І ПАКАЗНОГА»

З задавальненнем адзначаючы першыя пазітыўныя зрухі ў ажыццяўленні палітыкі беларусізацыі, дзяржаўныя і партыйныя кіраўнікі, а разам з імі і многія прадстаўнікі навуковай і мастацкай інтэлігенцыі не пакідалі заяўляць, што рэспубліка стаіць толькі на пачатку гэтага гістарычнага шляху. Даволі крытычна на ход вырашэння данай праблемы глядзеў першы сакратар ЦК КП(б)Б В. Кнорын, заяўляючы, што ў "посьпехах беларусізацыі вельмі шмат надворнага і паказнога, што прымушае прыходзіць да вываду, што беларусізацыя яшчэ далёка не пусьціла тых глыбокіх каранёў, якія нам патрэбны". Неабходна, каб яна ўвайшла ў быт і культуру. Арганізацыйнымі метадамі беларускую мову можна навязаць апарату, але толькі не шырокім масам. Выступаючы за тое, каб кожны актыўны партыец ведаў беларускую мову, В. Кнорын разам з тым лічыў, што "перавод на беларускую мову партработы толькі тады будзе пасьпяховым і дасьць патрэбныя вынікі, калі беларуская мова будзе ўваходзіць у рабочыя масы праз усе шчыліны яго культурнага абслугоўваньня". А гэта якраз і адсутнічала на практыцы. Больш-менш належным чынам яно было арганізавана толькі ў саюзе працасветы, дзе 60 працэнтаў усіх форм масавай культработы і 75 працэнтаў гурткоў было пераведзена на беларускую мову, а ў саюзе ж савгандальслужачых першы паказчык раўняўся 25 працэнтам, медсанпрацы — 9, чыгуначнікаў — 8, сувязі — 4. Беларуская мова пакуль што недастаткова гучала ў дакладах на агульных сходах у працоўных калектывах, у сферы гандлёвага абслугоўвання людзей.

Да падзей, што адбываліся ў нацыянальным жыцці Беларусі, як заходняга фарпосту СССР, павышаную цікавасць праяўляў партыйны цэнтр у Крамлі. Далёка не ўсё, што праводзілася па лініі беларусізацыі, падабалася яму. І на гэта меліся сур'ёзныя прычыны. На пачатку 30-х гадоў у ідэалагічнай працы партыі, афіцыйным друку ўсё больш папулярным станавіўся тэзіс аб непазбежнасці зліцця культур і моваў савецкіх народаў у ходзе будаўніцтва імі, як тады пісалася, светлага, самага шчаслівага ў свеце камуністычнага грамадства. У сувязі з гэтым ідэя беларусізацыі ўжо не магла мець такой падтрымкі ў партыйных органаў, як гэта назіралася на яе пачатку. З цягам часу самыя шчырыя прыхільнікі гэтай ідэі сталі разглядацца бальшавіцкай партыяй як варожыя савецкай уладзе асобы. Камуністы рабілі ўсё, каб узяць цалкам пад свой кантроль палітыку беларусізацыі, гвалтам адхіліўшы ад кіравання ёю тых дзяржаўных дзеячаў, якія вельмі аддана служылі нацыянальнай ідэі.

## ДУБІНА «НАЦДЭМАЎШЧЫНЫ»

Вялікую шкоду нацыянальнай ідэі нанесла разгорнутая ў канцы 20-х гадоў па ініцыятыве ЦК КП(б)Б барацьба з уяўнымі, надуманымі беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі, якія нібыта лічылі сваёй мэтай адарваць БССР ад СССР, паставіць яе на шлях капіталістычнага жыцця, зблізіць з буржуазным Захадам. У такіх умовах беларусізацыя ўжо не магла надалей з'яўляцца магістральным напрамкам нацыянальнай палітыкі, хаця і працягвала, нягледзячы на ўсе перашкоды, рабіць пэўны ўплыў на ўсе бакі жыцця ў рэспубліцы, праўда, у значна меншых маштабах. Беларусізацыю нельга было адмяніць прыняццем якога-небудзь дзяржаўна-партыйнага нарматыўнага акта, як гэта было зроблена з аб'яўленнем яе ў ліпені 1924 года афіцыйнай палітыкай. А нельга было адмяніць таму, што ідэю беларусізацыі падтрымлівалі ўсе пласты беларускага народа, справядліва бачачы ў ёй надзейны сродак свайго нацыянальна-культурнага адраджэння. Партыя вынайшла і вельмі "эфектыўна" выкарыстала зусім іншыя метады выключэння беларусізацыі са сваёй нацыянальнай палітыкі, навязаўшы іх дзяржаве, а галоўнае — рэпрэсіўным органам. На сумленні апошніх ужо на пачатку барацьбы з "нацдэмаўшчынай" дзесяткі пакалечаных лёсаў самых адданых беларусізацыі людзей. Асаблівы спад у іх дзейнасці назіраўся пасля таго, як зацюканы частымі выклікамі ў ЦК КП(б)Б і несправядлівымі абвінавачваннямі 4 лютага 1931 года скончыў жыццё самагубствам галоўны ідэолаг беларусізацыі, акадэмік Беларускай акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі.

Як толькі з боку рэспубліканскіх дзяржаўных і партыйных органаў паслабіўся інтарэс да беларусізацыі, з іх "лёгкай рукі" пачалася барацьба з "нацдэмаўшчынай", адразу ж і на месцах, на прадпрыемствах і ва ўстановах актывізавалася супраціўленне беларускаму нацыянальнаму Адраджэнню, ізноў усплыў на паверхню, стаў ходкім любімы дарэвалюцыйны тэзіс чыноўнікаў рускай адміністрацыі на Беларусі аб грубасці мовы яе народа. Па гэтай прычыне, заяўлялася, беларускую мову людзі вывучаюць і будуць вывучаць толькі па прымусу. Пачалі здарацца выпадкі пераводу службовага справаводства з беларускай мовы на рускую. Усё часцей на ёй сталі праводзіць партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія сходы, пленумы і канферэнцыі. Прычым самі кіраўнікі дазвалялі сабе перабіць выступленне таго, хто пачынаў гаварыць пабеларуску.

## «АДРЭЖЦЕ МНЕ ПАЛАВІНУ ЯЗЫКА...»

Выкліканыя барацьбой з "нацдэмаўшчынай" цяжкасці ў ажыццяўленні палітыкі беларусізацыі гатовы былі выкарыстаць і прадстаўнікі некаторых групаў інтэлігенцыі, хаця ва ўсе часы і ва ўсіх народаў яна знаходзіцца на правым флангу нацыянальна-культурнага адраджэння. Моцнае супраціўленне аказваў і прафесарска-выкладчыцкі склад вышэйшых навучальных устаноў, што магло надзвычай ускладніць справу беларусізацыі. Асабліва ўпарціўся ёй педагагічны калектыў Гомельскага лесатэхнічнага інстытута. У час правядзення летам 1931 года месячніка генеральнай праверкі беларусізацыі прафесар гэтай навучальнай установы Баканаў заявіў наступнае: "...выключайце з партыі, абвяшчайце вымову, а беларускай мовы вывучаць не буду" і нават ухіліўся ад праверкі.

У першую чаргу прафесары і выкладчыкі імкнуліся пасеяць непавагу да беларусізацыі сярод студэнтаў небеларускага паходжання. Магчыма гэта і паслужыла падставай для Міхайлы Грамыкі, каб у сваёй п'есе "Віно бушуе" стварыць абагульнены вобраз такога студэнта з ліку рускіх, якія стаялі на вялікадзяржаўных пазіцыях. Абяцаючы і надалей карыстацца толькі рускай мовай, гэты студэнт заяўляе: "А я гавару, нічога вы са мной не сделаеце, не хачу і не хачу. Адрэжце мне палавіну языка, а я ўсё роўна другой палавінай буду гаварыць па-рускі і зачоты здаваць". Стварэнне такога вобраза будзе некалі выкарыстана як падстава для абвінавачвання М. Грамыкі ў нацыяналізме. У. Галубок, разглядаючы пытанні стылю беларускай савецкай драматургіі, убачыць у гэтай п'есе "самы яскравы выпад супраць палітыкі камуністычнай партыі ў нацпытанні", спробу даказаць, "што асновы безкультур'я і цемнаты прыносяцца ў БССР прышлымі людзьмі".

Многім зразумела, што падарваць, моцна запляміць ідэю беларусізацыі можна будзе і рознага роду лявацкімі перагібамі. У гэтых мэтах сям-там адкрыта заяўлялася аб забароне карыстацца рускай мовай пры звароце ў партыйныя, дзяржаўныя ўстановы, гаспадарчыя органы. Былі выпадкі, калі з партыі выключалі найлепшых ударнікаў працы толькі за тое, што яны складалі свае дагаворы на сацыялістычнае спаборніцтва на рускай мове. Усё гэта, з аднаго боку, штучна распальвала канфлікты паміж беларуска- і рускамоўнымі людзьмі, а з другога — давала магчымасць прадстаўнікам улады, не зацікаўленым у поспехах беларусізацыі, рабіць захады па яе свядомым стрымліванні, а не — дык і па ўчыненні ўсемагчымых рэпрэсій супраць яе найбольш актыўных змагароў.

Моцна нашкодзіла беларусізацыі, самой ідэі беларускага нацыянальнага Адраджэння распачатае супраць гэтага цкаванне ў агульнасаюзным друку, пераважна партыйным. На ўсялякую крытыку партыйныя і дзяржаўныя органы рэспублікі адразу ж рабілі адпаведныя захады, часта больш суровыя і жорсткія, чым гэта патрабавала сама сітуацыя. У выніку з кожным годам беларусізацыя губляла свой уплыў на культурна-нацыянальныя працэсы і ўжо да сярэдзіны 30-х гадоў знікла са старонак афіцыйнага друку, прыйшла ў заняпад. Па віне сталінскай каманднa-бюракратычнай сістэмы адна з самых сур'ёзных у XX стагоддзі спроб беларускага Адраджэння правалілася.

* * *

Ад другой паловы 30-х гадоў пачалося амаль суцэльнае пяцідзесяцігоддзе планамернага размывання нацыянальнага патэнцыялу беларускага народа. У такіх умовах вельмі мала хто адважваўся пісаць і гаварыць пра міжваенную беларусізацыю. Яна нават не згадваецца ў такіх капітальных працах, як двухтомная "Гісторыя БССР" (1958, т. 2), пяцітомная "Гісторыя БССР" (1973, т. 3), "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". Тэрмін "беларусізацыя" вярнуўся да нас з пачаткам "гарбачоўскай перабудовы", якая паспрыяла ўзнікненню новай чарговай хвалі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння XX стагоддзя. У падзеях сённяшняга дня вельмі багата паралеляў з першай беларусізацыяй, таму яна заслугоўвае самага глыбокага вывучэння. Усё лепшае, што было набыта нашымі людзьмі ў адбудове нацыянальнага жыцця ў 20-я — першую палову 30-х гадоў, не падлягае забыццю, павінна служыць высакароднай справе Адраджэння, на шляху якога цяпер больш цяжкасцяў, непрыступных бар'ераў, чым у любым з папярэдніх перыядаў.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Заканчэнне.
Пачатак у №№ 14-15.**

## ЧАС І ЛЁС

# ЧОРНЫЯ СКРЫЖАЛІ ФЁДАРА ПЕТРАЧЭНКІ

У 1933 годзе 28-гадовую мінскую настаўніцу Марыну Тарасаву-Петрачэнка выклікалі ў НКУС. І калі на акуратна прыбраным стале следчага Марына заўважыла том са збору твораў У. І. Леніна, следчы, злавіўшы яе погляд, узяў кнігу ў рукі, адкрыў і, паднёсшы да вачэй Марыны, моўчкі паказаў пальцам: тут чытайце: "Петрачэнка Ф. І., нарадзіўся ў 1875-м, дэпутат II Дзяржаўнай думы ад Віцебскай губерні, правы селянін, былы прыдворны паштальён..."

Фёдар Петрачэнка нарадзіўся ў 1875 годзе ў вёсцы Дуброўніцы Віцебскай губерні Невельскага павета. Незадоўга да гэтага бацька Фёдара, селянін Ігнат Петрачэнка, атрымаў хутар. Месца было балоцістае, на горцы лес, у якім вадзіліся мядзведзі. Ігнат быў працавіты: асушыў балота, пракапаў канавы... З'явілася сенажаць. Гаспадар пабудаваў калодзеж, непадалёку хату, лазню і хлеў для жывёлы. Высек лес, выкарчаваў пні і, збудаваўшы невялікі дзягцярны заводзік, стаў гнаць дзёгаць.

Тут, на хутары, нарадзіліся ў Ігната чацвёра сыноў. Адзін з іх — Фёдар. Атрымаў у спадчыну ад бацькі працавітасць, гаспадарлівасць. Але меў прыкметную цягу да навукі...

Фёдар Петрачэнка паступае ў народнае вучылішча і паспяхова яго заканчвае. Па дасягненні ўзросту ў 1893 годзе прызываецца на службу. Служыць прыдворным паштальёнам у Пецяргофе. Узмоцнена займаецца самаадукацыяй, вывучае права і пасля заканчэння службы, здаўшы экстэрнам экзамены, атрымлівае юрыдычную адукацыю ў Пецярбургскім універсітэце.

Вяртаецца на хутар ужо з жонкай. Іх першая дачка Ганна памірае зусім малой. А дачка Марына нарадзілася ў 1905 годзе. Фёдар Ігнатавіч вяртаецца з руска-японскай вайны Георгіеўскім кавалерам. Неўзабаве з сям'ёй ён пераязджае ў Полацк.

У 1907 годзе Ф. Петрачэнка выбіраецца членам II Дзяржаўнай думы. У Думе прымыкае да правых, уваходзіць у камісію дапамогі беспрацоўным. Выступае, у прыватнасці, па аграрнаму пытанню. Фрагмент адной з яго прамоў цытуе пазней У. Ленін у рабоце "Аграрная праграма сацыял-дэмакратыі ў першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гадоў": "Вазьміце Петрачэнку (Віцебская губерня). Ён пачынае з таго, што "да смерці будзе абараняць цара і айчыну". Правыя апладзіруюць. Але вось ён пераходзіць да пытання аб "малазямеллі". "Колькі гутарак ні вядзіце, — гаварыў ён, — другога зямнога шара не створыце. Давядзецца, значыць, гэтую зямлю нам аддаваць..."

Кастрычнік 17-га... Служачыя Полацкай земскай управы, памешчыкі едуць за мяжу. "Пакінуць радзіму я не магу, няхай будзе, што будзе", — сказаў Фёдар Ігнатавіч. Застаўся. Ахоўваў управу з усёй маёмасцю да прыходу бальшавікоў. У 1918 годзе яго арыштавалі, але праз некалькі тыдняў выпусцілі. Фёдар Ігнатавіч прыйшоў дадому, узяў сваіх малодшых дзяцей і паехаў з імі на хутар.

Незадоўга да гэтага ён аддаў Марыну на трохгадовыя педагагічныя курсы ў Невелі, неўзабаве пераўтвораныя ў тэхнікум, якія яна скончыла ў 1926 годзе і атрымала назначэнне ў горад Субіш Пскоўскай вобласці. Але, выпадкова даведаўшыся, што там работы няма, не паехала, вярнулася на хутар. Потым яна пачала працаваць настаўніцай у вёсцы Шарстова за восем кіламетраў ад хутара. Там Марына пазнаёмілася з работнікам НКУС Тарасавым і выйшла за яго замуж. Разам з мужам пераехалі ў Бабруйск, а пазней — у Мінск.

У 1929 годзе да іх у госці зазірнуў знаёмы чэкіст і між іншым расказаў, што на мяжы з Літвой арудаваў небяспечны, хітры шпіён, якога ўсё ж такі злавілі, прозвішча яго Петрачэнка.

Неўзабаве ў сям'ю Тарасавых прыходзіць пісьмо аб тым, што Фёдара Ігнатавіча, які жыў з сям'ёй на хутары, арыштавалі. А праз некаторы час Марына атрымала пісьмо з Комі АССР ад маці: у 1933 годзе і да Тарасавых дабраліся. У тым годзе Тарасаў праходзіць чыстку ў партыі. Яму прапаноўваюць развесціся з жонкай, дачкой кулака, ворага народа. Яго выключаюць з партыі. А ў 1939 годзе абвінавачваюць у "няправільным вядзенні следства", арыштоўваюць і высылаюць на Поўнач, услед за "небяспечным шпіёнам" Петрачэнкам. Марына застаецца адна з двума дзецьмі. З [illegible]асцю трымаецца на працы. Кам[illegible] за камісіяй. У віну ёй ставіцца то бацька, то муж.

У гады вайны Марына Фёдараўна дабіраецца да Тамбоўскай вобласці, дзе працуе выхавальніцай у дзіцячым доме. У 1944 годзе вяртаецца ў Мінск і працуе настаўніцай[illegible]расаў, з пачатку вайны знаходзяч[illegible] лагерах, дабіваецца дазволу пайсці на фронт. Даходзіць да Берліна. Узнагароджаны ордэнам Славы. Памірае ў 1946 годзе ад сардэчнага прыступу.

А Фёдара Петрачэнкі ўжо даўно няма ў жывых. У 1929-м яго сям'я, таксама высланая на Поўнач, знаходзілася за 150 кіламетраў ад яго. Але Фёдар Ігнатавіч, прайшоўшы 150 кіламетраў, дабраўся да родных зусім хворы, прысеў на пянёк і падышоўшай жонцы паспеў толькі сказаць: "Трымайся!"

Такая гісторыя жыцця беларускага селяніна, члена II Дзяржаўнай думы, Георгіеўскага кавалера, былога прыдворнага паштальёна Федара Ігнатавіча Петрачэнкі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**



**Дабрачынная арганізацыя з Галандыі "Чэркін" перадала ў мінскую гімназію № 61 бібліятэку кніг на англійскай мове. Больш за 800 кніг сабралі дзеці Галандыі для сваіх мінскіх равеснікаў. Кнігі прывёз Цэнтр міжнародных сувязей.**

**НА ЗДЫМКУ: гімназісты знаёмяцца з кнігамі з Галандыі.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

# СУСТРЭЧА Ў «СЬВІТАНКУ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Зараз з прыходам дэмакратыі, якая дае права чалавеку на іншадумства, на альтэрнатыву, на рэалізацыю свайго таленту, сваіх магчымасцяў, народная медыцына атрымала поўнае права на сваё поле дзейнасці пад кантролем дзяржавы. Афіцыйная медыцына таксама ўжо пачынае згаджацца, што ёсць моманты ў хворага чалавека, калі медыкі не ў стане яму аказаць тую ці іншую дапамогу і тут патрэбна дапамога з боку народнай медыцыны. Таму многія медыкі ўжо не так адмоўна і катэгарычна ставяцца да народных лекараў. Тым больш (як вядома з гісторыі), што навуковая медыцына выйшла менавіта з народнай медыцыны. Сваё разуменне значнасці афіцыйнай навуковай медыцыны маюць і сапраўдныя народныя лекары: устанавіўшы хваробу, якую яны не змогуць вылечыць, абавязкова пасылаюць хворага да медыка-спецыяліста. Хоць ёсць яшчэ, на жаль, і такія, што не прызнаюць народнае лекарства і знахарства, таксама, як і ёсць выпадкі шарлатанства з боку некаторых прадстаўнікоў народнай медыцыны. Сёй-той, скончыўшы нейкія курсы, не маючы ад прыроды дару лячэння, называе сябе народным лекарам і цягне з людзей грошы, не прыносячы ніякай карысці.

Сустрэча ў "Сьвітанку" паказала, што ёсць сапраўдныя народныя лекары і сапраўдныя спецыялісты медыцыны, якія аб'яднанымі намаганнямі могуць рабіць добрую справу, дапамагаючы людзям перасіліць сваю немач, выжыць у такі складаны сённяшні час. І гэтымі спецыялістамі ў Латвіі з'яўляюцца беларусы Любоў Міронава і Сяргей Кузняцоў.

Любоў Міронава вядомая не толькі беларускай дыяспары Латвіі, аб ёй [illegible]янна піша мясцовая рускамоўная і л[illegible]ская прэса, яна часты госць на латвійскім радыё і тэлебачанні.

Нарадзілася Л. Міронава ў адной з вёсак Івацэвіцкага раёна на Брэстчыне на Вялікдзень, адразу пасля ваеннага ліхалецця. І, мусіць, не выпадковасць яе нараджэнне ў святы дзень. Маючы моцную [illegible]нергетыку ў руках, яна спалучае сва[illegible]энне з малітвай Божай перад іконамі з запаленымі свечкамі. Дапамагаюць ёй лячыць таксама старадаўнія беларускія знахарскія сродкі і рэцэпты, атрыманыя Л. Міронавай у спадчыну ад сваіх продкаў. Знахарства ў сям'і Любові Іларыёнаўны перадавалася па жаночай лініі ад прабабулі да бабулі, ад бабулі да маці, ад маці — ёй самой. Калі жыла ў Беларусі, сама не спрабавала лячыць, а толькі прыглядалася, слухала, як гэта робіць маці. У Латвію Л. Міронава трапіла амаль што выпадкова. У 1975 годзе прыехала ў Рыгу да стрыечнай сястры ў госці, убачыла цікавы прыгожы з спічастымі вежамі храмаў старажытны горад, і не захацелася беларускай дзяўчыне вяртацца дамоў. Уладкавалася тут на працу на электралямпавы завод. Днём працавала, а ў вольны час неафіцыйна займалася лекарскай практыкай — лячыла сваіх сяброў і знаёмых.

А вось калі Латвія вызвалілася ад таталітарнай сістэмы і стала незалежнай дэмакратычнай дзяржавай, тут было дазволена выйсці з падполля народнай медыцыне. У гэты час Любоў Іларыёнаўна вырашыла цалкам аддаць свае веды і талент лекаркі людзям. Для большага ўдасканалення яна пайшла вучыцца на прафесійныя курсы народнага лекарства, а таксама скончыла курсы масажыста мануальнай тэрапіі, класічнага масажу і атрымала ліцэнзію на права прыватнага лячэння.

Вось ужо 3 гады як яна прынята ў Асацыяцыю народных лекараў Латвіі і вядзе штодзённы прыём, дапамагаючы людзям вызваліцца ад такіх хвароб, як неўралгія, астма, язва страўніка, захворванні скуры, імпатэнцыя і інш. Яна здымае праклёны, нагаворы, робіць дыягностыку захворванняў. Ля яе кабінета ў беларускім таварыстве заўсёды чарга. Лечыць яна не толькі беларусаў, а ўсіх, хто да яе звяртаецца. Прыязджаюць да яе як з розных месцаў Латвіі, так і з Расіі, Польшчы, Германіі, Галандыі, Італіі і нават Амерыкі. Хто не можа сам прыехаць, то яго фатаграфію прывозяць родзічы, і па ёй і рэчах хворага яна дапамагае пазбавіцца ад немачы хворым. Штодзённа людзі нясуць Любові Іларыёнаўне кветкі, пішуць лісты падзякі за дапамогу. Сама Любоў Міронава вельмі добры і шчодры чалавек, дапамагае ўсім, хто да яе звяртаецца, і не толькі як лекарка, але і як фундатар, і ў першую чаргу дапамагае Рыжскай беларускай школе. Любіць дзяцей і з сваёй шасцігадовай унучкай Алісай яна пастаянны і пачэсны госць на ўсіх вечарынах гэтай школы. Радуецца, што ў яе ёсць Аліса — яе будучая паслядоўніца, якая ўжо ў 3 месяцы адчула ў сваіх ручках моцную біяэнергетычную сілу, а зараз, гледзячы на бабулю, таксама ўжо робіць дыягностыку захворвання.

Сяргей Кузняцоў нарадзіўся ў 1961 годзе ў Рызе, але радавод яго ідзе з Гомеля. У Рызе ён скончыў сярэднюю школу з англійскім ухілам, дзякуючы чаму вольна валодае англійскай мовай. Роднай мове навучыўся ад бабулі, калі падчас канікулаў ездзіў да яе ў Гомель. Менавіта там ён прачытаў першыя беларускія кніжкі, а "Каласы пад сярпом тваім" У. Караткевіча зрабілі глыбокі ўплыў на яго і абудзілі нацыянальную свядомасць. Адданы справе адраджэння беларушчыны ў Латвіі, ён адзін з першых заснавальнікаў і першы старшыня Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак". Ужо шмат гадоў і да сённяшняга часу ён нязменны старшыня рады таварыства. Але гэта яго толькі грамадская дзейнасць, а галоўная справа і праца — медыцына. Скончыўшы медыцынскі інстытут, а потым абараніўшы доктарскую дысертацыю, ён поўнасцю аддаўся навуковай працы ў галіне анкалогіі, і яна прынесла немалы плён. Працуючы ў Рызе ў добра вядомай у навуковым свеце лабараторыі БІАЛАТ, ён стаў аўтарам многіх выпрацаваных ім лекаў для прафілактыкі і лячэння рака. Сяргей Кузняцоў аўтар 120 навуковых артыкулаў і шэрагу кніг на латышскай, расійскай, англійскай ды нямецкай мовах у галіне лячэння анкалагічных захворванняў. Ён двойчы названы ў дзесятцы лепшых даследчыкаў рака ў Еўропе, лаўрэат міжнародных прэмій за распрацоўку унікальных метадаў прафілактыкі і лячэння рака, з'яўляецца сябрам Амерыканскай асацыяцыі хіміятэрапіі і Нью-Йоркскай акадэміі навук.

Зараз наш малады вучоны актыўна ажыццяўляе мэты Міжнароднай асацыяцыі падтрымкі хворых на рак, працуе над новымі лекамі і вядзе прыём хворых. У свае 36 год Сяргей Кузняцоў на ніве навукі зрабіў даволі шмат. Аддаючы многа часу навуковым распрацоўкам у лабараторыі, Сяргей Юр'евіч многа калясіць па свеце. Ён удзельнік міжнародных навуковых канферэнцый ды сімпозіумаў у Японіі, Кітаі, Тайландзе, Францыі, Англіі, Канадзе, ЗША і іншых дзяржавах.

Нягледзячы на сваю занятасць не толькі навукай, лячэннем і кансультацыямі хворых, але і сваімі сямейнымі абавязкамі бацькі (у яго растуць цудоўныя дзеткі — дачушка Галя 13 год і сынок Іванка 8 год), Сяргей Кузняцоў знайшоў час і на гэту сустрэчу.

Сустрэча ў "Сьвітанку" з гэтымі двума вядомымі лекарамі атрымалася даволі цікавай і карыснай для прысутных.

Любоў Міронава апавядала пра сябе, пра тое, якія хваробы яна лечыць, ад якіх яна можа збавіць, як да яе можна запісацца, калі прыйсці на прыём і што патрэбна ўзяць з сабой (соль, ваду і інш.). А Сяргей Кузняцоў таксама расказаў пра сябе, пра працу над новымі лекамі, пра віды анкалагічных захворванняў і іх прафілактыку, пра найноўшыя сродкі лячэння рака, выпрацаваныя вучонымі, пра тое, куды звяртацца па дапамогу таму ці іншаму пацыенту. Абодвум удзельнікам сустрэчы задаваліся бясконцыя пытанні, на якія адразу атрымлівалі адказы. Зала была поўная людзей, і дыялог паміж лекарамі і прысутнымі цягнуўся чатыры гадзіны. Нават пасля заканчэння афіцыйнай сустрэчы людзі не разыходзіліся, чыталі і бралі з сабой інфармацыйныя лісткі, якія былі спецыяльна падрыхтаваны на стэндах, глядзелі відэазапісы з тэлеэкрана.

Нашых лекараў Любоў Іларыёнаўну і Сяргея Юр'евіча добра ведаюць у Латвіі, але, магчыма, пра іх мала хто ведае ў самой Беларусі ці іншых дзяржавах. Для тых, хто захоча больш падрабязна даведацца пра іх у перапісцы, ці нехта захоча зрабіць сустрэчу з нашымі лекарамі ў сваім горадзе, мы просім пісаць на наша таварыства на іх прозвішча.

**S. Kuznecovs (або L. Mironova)**
**LBKB "Svitanak"**
**Slokas iela, т. 37.**
**Riga-7. LV — 1007 LATVIJA**

**Вячка ЦЕЛЕШ.**



Инна (Михалина) БУЙЛО

# ПО ПРОЙДЕННЫМ ДОРОГАМ

Из Радейкова (здесь нам очень плохо жилось, и Стася очень сильно заболела дифтеритом, чуть не умерла) мы переехали в Одровонж, рядом с местечком Вишнево. Одровонж — это питомник редких растений. Отец должен был охранять этот питомник. Он находился на опушке леса, почти парка. На одной из полян стоял белый двухэтажный дом, куда на лето приезжал граф, и чуть поодаль стоял небольшой деревянный домик, где жили мы. Нам, детям, здесь нравилось. Нравилось все вокруг дома. Он был обсажен каштанами, за домиком прудик. Недалеко от домика проходила дорога в местечко Вишнево. Она была обсажена липами и каштанами, с другой стороны — красивый, чистый лес, за ним небольшая река (названия ее не знаю). Заповедник был обнесен высоким забором, и там цвели розы и другие необычные кустарники. Некоторое время мы жили одни среди этой красивой природы. Но в один прекрасный день в белый дом приехали люди. Мы увидели девочку и мальчика — своих ровесников. Это приехал управляющий графа Одинец с женой и четырьмя детьми. Старшая дочь Елена подружилась со Стасей, младшая Зося (она умерла от аппендицита) — с Косточкой, младшая Янина подружилась со мной, а мальчик Янек — друг Эдику. С их приездом нам стало веселей. Это были культурные люди, но в глуши они не гнушались нашим обществом. Я часто ходила к Янине, и мы играли в куклы. Был уже 1908 год. Летом мы ходили на речку. Это было очень живописное место.

На взгорке был парк с редкостными деревьями, похожий на лес. На его опушках было много шиповника и еще какие-то кустарники с душистыми темными цветами. Спускались мы к речке по чудесному пригорку, усеянному ромашкой, смолкой, душистым горошком, чебрецом. Нам был интересен каждый цветок. У речки мне вспоминались сказки Косточки о царевне Лебеди, мне казалось, что она должна быть на этой речке, которая змейкой уплывала куда-то вдаль. По вечерам мы ходили гулять по парку. Всегда я и Янина шли впереди, а старшие сестры — сзади. Мы обычно делали крюк вокруг "палаца", т. е. белого дома. На Новый год Одинцы пригласили нас на елку. Я тогда впервые увидела елку. Какая была изумительная эта елка! Мы, дети, не могли глаз оторвать, а потом, взявшись за руки, ходили вокруг нее и что-то, кажется, пели. Потом нам давали конфеты. Это был незабываемый праздник. Но мы недолго жили в Одровонже. Нужно сказать, что здесь очень болела мама и я. У мамы была какая-то сыпь на теле, и Стася каждый вечер натирала ее. Я болела плевритом с высокой температурой, и были сильные боли под лопаткой. Я не могла вздохнуть, помню, что Стася все ночи просиживала у моей кровати и растирала спину керосином, отчего мне было легче дышать. Милая, милая Стася. У нас в комнате были только две кровати. На одной спала Косточка, на другой Стася, мы трое — на полу, на овчинных тулупах, в которых были миллиарды блох, и они не давали спать. Стася часто брала меня к себе на кровать, но спать вдвоем было неудобно, т. к. кровати были узкие.

Мы с грустью прощались с Одровонжем. Иринево, куда мы переехали, было очень пустынное место. Оно принадлежало, кажется, тому же графу. Это был фольварок с деревянным домом, большим скотным двором для овец-мериносов, маленький скотный двор для батраков и сенной сарай. Напротив дома — огород с забором, обсажен липами. Дом имел одно крыльцо, большие сени с лестницей на чердак. Сени с земляным полом. По одну сторону жили мы, там была передняя с русской печкой, затем залка и спальня, которую перегородили двумя шкафами. В темном углу спали девочки, в светлом — отец и мама, а мальчики — в зальчике. Я спала на одной кровати со Стасей. Нам здесь жилось очень тяжело. Отец был учетчиком на кирпичном заводе, расположенном в трех километрах от нашего дома. Отец ежедневно туда ходил, ему было это очень тяжело, т. к. у него болели ноги (вены) и был хронический бронхит. Он сильно кашлял. Зарплату он получал 70 рублей в год, несколько мешков ржи и картошки (броварки). У графа был винокуренный завод и потому сажали специальный сорт картошки — очень вкусный. Мы, дети, были дома. Мама требовала, чтобы Стася и Косточка шли работать поденно к графу. Но они были гордыми и не шли. Хотя дома был голод. Они занимались самообразованием. Надо сказать, что азы грамоты сестры постигли в Барсуковине. Стася, кажется, зиму прожила у какой-то старушки в Воложине и там одну зиму посещала народную школу, а Косточка в Барсуковине несколько месяцев ходила в сельскую школу в близлежащей деревне. Я азы постигла под руководством мамы. Учила она меня по польскому молитвеннику. Я очень боялась этих занятий, т. к. она за ошибки била по лицу. Один раз так ударила меня по носу, что я залила кровью весь молитвенник. Но осуждать я ее не могу, тогда был такой стиль воспитания. В старости она очень страдала от того, что жестоко нас била.

В Иреневе мы стали старше, и нужно было думать, что с нами делать. Стася и Косточка не хотели идти в батрачки к помещику. Отец Стасю устроил "ахмістрыняй" к какой-то помещице. Она уехала, моя любимая Стася. Как я плакала, как осиротела. У Косточки так сложилась жизнь: она начала писать стихи, много занималась самообразованием, много читала. Отец каким-то образом завел знакомство с белорусами, стал выписывать белорусскую газету "Наша нива", и даже в Вишневе решили ставить пьесу. Отец учил даже какую-то роль из этой пьесы.

Косточка любила читать "Нашу ниву" и однажды решила послать туда свое стихотворение, но не решилась сама его подписать. Помню, очень просила подписать Эдика, он согласился. И какая была радость, когда в газете "Наша нива" она увидела свое стихотворение напечатанным. С тех пор она поверила в свой талант и стала писать стихи и на польском языке. Косточка была очень живая, энергичная, способная, умная, очень много читала.

В Вишневе на развилке была большая гора, вернее курган, на котором стояли громадные кресты. С одной стороны курган осыпался — там был желтый песок, и оттуда сыпались человеческие кости, черепа. Говорили, что холм насыпан после войны со шведами, что это братская могила. От кургана местечко делилось надвое. С одной стороны — церковь, почта, дом доктора Крашевского, несколько деревянных домиков, утопающих в сирени, и костел с плебанией, дальше шла обычная деревня. С другой стороны холма были маленькие деревянные домики, где жили разные чиновники. Однажды летом Косточка пошла в костел, и на обратном пути ей захотелось пить. Она зашла в домик с деревянным заборчиком близ дороги, обсаженный сиренью. Ее встретила приятная пожилая женщина, дала напиться, и они разговорились. Женщина сказала, что у нее есть дочь, у которой такие же золотистые косы, что она сейчас в Вильно, но скоро должна приехать. Она пригласила Косточку заходить к ней, обещала познакомить ее со своей дочерью, которую зовут Владя. Косточка стала заходить к новой знакомой, и она даже давала ей уроки французского языка. Вскоре приехала Владя, они познакомились и очень подружились. Владя была цветущая, с румяным лицом, и две золотые толстые косы украшали ее плечи. Это знакомство изменило жизнь Косточки. Владя, узнав о трудной жизни нашей семьи, предложила Косточке уехать с ней в Вильно в качестве учительницы. Там Косточка познакомилась с Янкой Купалой, Теткой и другими белорусскими писателями.

Ещё в Одровонже Эдик бегал в Вишнево к какому-то студенту, летом он его готовил в городское училище. И вот в один прекрасный день отец попросил у управляющего лошадь и повез Эдика в Ошмяны. Были опасения, что Эдик не выдержит экзамены, но он выдержал и поступил в училище. Витю отец устроил в народное училище для мальчиков. Была там церковно-приходская школа, куда принимали девочек, но меня не взяли, т. к. я "католичка". Проходя мимо этой школы, я всегда завидовала девочкам, которые гурьбой в перемену выходили на крылечко. Отец устроил меня к д[illegible] бывшей графской бонне, которая сняла домик из двух комнат в Вишневе. Жила она с матерью и частным образом учила детей. Было нас у нее человек 10. Мы учили один день польский язык, а другой день русский. Учеба сводилась к чистописанию и четырем действиям арифметики. У меня был хороший почерк, и моей обязанностью было писать всем ученикам первую строчку чистописания и несколько примеров по арифметике. Здесь я познакомилась с девочкой Геней Тартылло. Жила она в Вишневе по другую сторону кургана в деревянном домике с двумя комнатами. Геня была старше меня и очень красивая: классические черты лица, чудесные глаза. Я с ней очень подружилась. Она жила с мамой и братом Фредиком, которому было лет 10. Второй брат, уже взрослый, учился на ксендза. Отец от них ушел и жил где-то в другом городе. Старшая сестра Гени была женой управляющего, у которых служил мой отец. Однажды учительница спросила, умею ли я вязать. Я сказала: да. Хотя вязала очень плохо. Она дала мне деньги, сказала, чтобы я купила два клубка ниток и связала ей кружева. Я была в ужасе, что не выполню этого задания (я вязала очень медленно), но мне повезло, приехала Стася. Она не ужилась с помещицей, потому что не умела унижаться, выслуживаться, хитрить. Стася была гордая, умная и правдивая. Я снова почувствовала ее ласку, заботу, но мама была очень недовольна, и жизнь Стаси в доме стала очень тяжелой. Здоровье имела слабое, покашливала и еще заболела рожей. Родители устроили ее к еврейкам-портнихам в Вишневе учиться шить. Она училась всего несколько месяцев, но была талантлива, как и отец, все быстро усваивала и вскоре стала всех нас обшивать. В это время Косточка написала, чтобы Стася приехала в Вильно. Она уехала, где они с Косточкой и Владей очень бедствовали — почти голодали.



**НА ЗДЫМКУ: Міхаліна БУЙЛО з бацькам Антонам Аляксандравічам. Віцебск, 1919 або 1920 год.**

**Працяг. Пачатак у № 15.**

## САЛІГОРСКАЯ ШКОЛА КЕРАМІКІ



**Ужо некалькі гадоў, як у Салігорску зарадзілася свая школа керамікі. Яе заснавальнікам стаў выпускнік мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута Мікалай Пратасеня. У гарадскім Цэнтры дзіцячай творчасці арганізаваў ён гурток керамікі, вырабіў ганчарны круг і падрыхтаваў неабходную тэхнічную базу. Разам з дзецьмі ездзіў у творчыя экспедыцыі па раёнах Беларусі, вядомых развіццём ганчарнага промыслу. Па крупінках збіралі вопыт і выкарыстоўвалі яго ў сваіх работах.**

**Неўзабаве ў Мікалая з'явіўся аднадумца і памочнік Аляксандр Кірычак. Пакінуўшы працу на шахце, ён перайшоў у Цэнтр дзіцячай творчасці, дзе гурток керамікі ўжо пераўтварыўся ў студыю "Скарбніца". Мікалай выкладае студыйцам скульптурную кераміку, а Аляксандр — ганчарную. Аляксандр, напрыклад, практычна адрадзіў амаль страчанае мастацтва абварной керамікі і паспяхова працуе ў гэтым напрамку. А многія выхаванцы студыі "Скарбніца" ўжо выйшлі ў вялікае жыццё, прысвяціўшы яго педагогіцы ці занятку керамікай. Так майстры-энтузіясты з Салігорска стварылі сваю школу керамікі і ўносяць свой уклад у развіццё традыцыйнага народнага мастацтва.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: салігорскія майстры керамікі Мікалай ПРАТАСЕНЯ (злева) і Аляксандр КІРЫЧАК; кераміка Аляксандра КІРЫЧАКА.**

**Фота аўтара.**



НА ХВАЛІ ДУХОЎНАГА АДРАДЖЭННЯ

# «МАНДАЛІННЫЯ ПРЭМ'ЕРЫ»



Так назваў свой канцэрт-рэсіталь вядомы ў нашай рэспубліцы і не ў адной замежнай краіне выканаўца на струнных народных інструментах Мікалай Марэцкі — канцэрціруючы віртуоз, бліскучы дамрыст і мандалініст. Яшчэ параўнаўча нядаўна, гадоў дзесяць таму назад, пры наяўнасці самай смелай фантазіі вельмі цяжка было ўявіць, каб у камернай канцэртнай зале Беларускай філармоніі адбыўся мандаліна-абенд, гэта значыць высокамастацкі, маштабны канцэрт, у якім на працягу ўсяго вечара "правіць баль" мандаліна, ды яшчэ пры аншлагу. Разважаючы над гэтым сацыяльным феноменам, міжволі задаешся пытаннем: чаму сёння гэты, здавалася б, непрыкметны, на думку некаторых музыкантаў, інструмент пакарае сэрцы слухачоў? Можна ўявіць, што народ, які імкнецца да адраджэння страчанай часткі духоўнай культуры, праяўляе да яе павышаную цікавасць. Тут да месца будзе напомніць народную мудрасць: "Што маем — не захоўваем, страціўшы — плачам". Мандаліна ў Беларусі побач з шасціструннай класічнай гітарай у канцы мінулага і пачатку гэтага стагоддзяў мела шырокае распаўсюджванне ў дзвюх іпастасях: як класічны камерны музычны інструмент, што скарыстоўваўся для музіцыравання ў заможных сем'ях, і як масавы — у быце простага народа разам з цымбаламі, дудкамі, гармонікамі, скрыпкамі, басэтлямі і інш.

Так працягвалася да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У пасляваенны час мандаліна пачала паступова страчваць свае ранейшыя пазіцыі ў сілу пэўных ідэалагічных прычын. Усё замежнае лічылася шкодным для выхавання савецкага чалавека. Выхад у васьмідзесятых гадах беларускіх музыкантаў на шырокую сусветную сцэнічную эстраду паскорыў працэс іх нацыянальнай самасвядомасці. У выніку чаго яны сталі думаць не толькі пра будучыню, пра перспектывы, але і азірацца назад, больш пільна ўглядаючыся ў сваё мінулае, выцягваючы адтуль усё самае каштоўнае і самае неабходнае для далейшага прагрэсу ў галіне нацыянальнай культуры і мастацтва. Радаваць жа погляд чалавека дрэва можа толькі тады, калі ў яго магутная каранёвая сістэма і спрыяльная глеба. Без добрых ведаў мінулага не можа быць жадаемай будучыні.

Важную ролю ў адраджэнні мандаліннага выканаўчага мастацтва адыграла арганізацыя на базе Беларускай акадэміі музыкі Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў, прэзідэнтам якой абрана заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, прафесар струннай кафедры народных інструментаў Г. Асмалоўская, а намеснікам — лаўрэат міжнародных конкурсаў, дацэнт той жа кафедры М. Марэцкі. Іх намаганнямі і, дзякуючы саборнасці ўсіх прадстаўнікоў гэтай славутай прафесіі, прыгажуня італьянка, "дама, прыемная ва ўсіх адносінах" — мандаліна сёння не толькі адрадзілася, як фенікс з попелу, але і заслужана прэтэндуе на сваю законную нішу сярод сямейства струнных музычных інструментаў.

Мандаліна-абенд быў адкрыты выкананнем Квартэта Ля мажор італьянскага кампазітара Ф. Джульяні. У арыгінале ён напісаны для мандаліны, скрыпкі, альта і лютні. Але ў даным складзе партыя лютні заменена віяланчэллю. Выканаўцы адпаведна: Мікалай Марэцкі, Сяргей Громаў, Аляксандр Каражаў і Ілья Жукоўскі. Інтэрпрэтацыя названага твора нагадвала прыемную гутарку чатырох высакародных і пачцівых яе ўдзельнікаў. Кожны з іх выказваў сваю думку, аргументаваў яе, а затым, прыйшоўшы да адзінай думкі, разам урачыста абвяшчалі яе існасць. Нягледзячы на тое, што дзве часткі Квартэта кантрастныя па настрою, яны з'явіліся аптымістычным пралогам усяго канцэрта. Слухачы адразу ж высока ацанілі выканаўчае майстэрства незвычайнага па складу квартэта і віталі яго цёпла і сардэчна.

Імкненне да натуральнасці выказвання, да жывой эмацыянальнай размовы, артыстычнага кантакту прадэманстраваў дуэт у складзе: мандаліна — Мікалай Марэцкі, гітара — Яўген Грыдзюшка. Гэта два таленавітыя музыканты, яны выдатна адчуваюць адзін аднаго. Калі слухаеш у іх выкананні Тэму з варыяцыямі італьянскага кампазітара Б. Барталачы, міжволі ўзнікае думка, што сапраўдны ансамбль нараджаецца сярод аднадумцаў, якія шукаюць індывідуальныя шляхі да агульнай мэты. Гэтаму садзейнічала, напэўна, і тое, што мандаліна і гітара створаны геніем італьянскага народа, у іх, вобразна кажучы, цячэ сваяцкая кроў.

Мандаліна на сяброўскіх парытэтных пачатках вяла размову і з каралеўскім інструментам — раялем. Трохчасткавы канцэрт для мандаліны і сімфанічнага аркестра (клавір В. Гладкі) аўстрыйскага кампазітара І. Гумеля быў выкананы лёгка, свабодна і вельмі музыкальна. Варта падкрэсліць, што М. Марэцкі не толькі выканаўца-віртуоз, гэта музыкант-мастак, яму пад сілу любыя жанры і стылі. І як усякі мастак, ён аддае перавагу творам буйной формы. Пра гэта сведчыць выкананне славутага канцэрта для скрыпкі і аркестра французскага кампазітара Каміла Сен-Санса "Інтрадукцыя і ронда-капрычыоза". Светлая паэтычная лірыка ў спалучэнні з бліскучай віртуознасцю, прыгажосцю рамантычнай прыўзнятасці літаральна зачаравала слухачоў.

Свабода, раскаванасць, натхнёнасць здзіўляюць і ўражваюць. І галоўнае ўсё ж заключаецца ў высокай культуры выканаўства, сутнасць якой трымаецца на сапраўднай культуры думкі і пачуцця, таленце, прафесіяналізме, на пераадоленні акадэмічных штампаў, эстраднага эпатажу. Сапраўдны поспех з маэстра Марэцкім падзяліла цудоўная піяністка, канцэртмайстар Белдзяржфілармоніі Таццяна Вішнякова. Яна прадэманстравала і яркую дыялагічнасць, і сапраўдную ансамблевасць.

У другім аддзяленні канцэрта прыняў удзел вядомы і папулярны цяпер ансамбль народных інструментаў Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі пад кіраўніцтвам Яраслава Валасюка. Ён паўстаў зусім не антуражам славутага саліста, а раўнапраўным мастацкім партнёрам са сваім яркім творчым аблічам. Як і прэм'ера мандаліннага выканаўчага мастацтва М. Марэцкага, ансамбль педагогаў з васьмі розных музычных інстр[illegible]нтаў можна смела далучы[illegible] з асобай плеяды музыкантаў-віртуозаў.

Усё другое аддзяленне канцэрта складалася з твораў аднаго аўтара. Гэта італьянскі кампазітар Мецакапа. Музычныя энцыклапедыі і сл[illegible]ікі не ўдастоілі сваёй увагай я[illegible] кампазітара з самабытным творчым напрамкам. У творчым партфелі Мецакапа значнае месца адведзена творам для мандаліны і аркестраў неапалітанскага складу. Прыгажосць гучання, вясёлы душэўны пыл, народная заліхвацкасць, палымяныя рытмы, карнавальная святочнасць, лікаванне, жыццярадаснасць і разам з тым вобразная сфера, у якой добра бачныя і маршападобнасць, настойлівасць, чаканнасць, а таксама сканцэнтраванасць, паэтычнасць, мройнасць, пяшчота, добразычлівасць і жартаўлівыя інтанацыі, карацей кажучы, калейдаскоп розных музычных замалёвак з жыцця італьянскага і французскага народаў, падслуханыя і ўбачаныя кампазітарам. Вось гэтыя творы: Марш мандаліністаў, серанада-балеро "Баніта", канцыянета "У маркізы", Серанада-Баркарола, марш "Французскі характар", вальс "Сувенір", балеро "Таледзе", Тарантэла, "Канцэртная полька", Марш-Парыж. Усё другое аддзяленне прайшло на адным дыханні. Гэта было цудоўнае, адухоўленае без усялякай афектацыі выкананне, адзначанае глыбокім пранікненнем у душу музыкі.

Слухачам не хацелася расставацца з выдатнымі артыстамі. У касцёле Святога Роха яны не лічылі грахом пакланіцца музыкантам, якія дораць прыгажосць людзям. Думаецца, што гэта мандалінная прэм'ера, створаная прэм'ерам мандаліннага выканаўчага мастацтва Мікалаем Марэцкім і яго неардынарнымі партнёрамі запомніцца надоўга.

Было б несправядліва не ўпамянуць бліскучую, чароўную Іну Зубрыч, улюбёную ў сваю архіцяжкую, але высакародную дзейнасць прапагандыста-асветніка выдатнага мастацтва — музыкі. Яна не проста вяла канцэрт, але і па-майстэрску ажыццяўляла танальныя мадуляцыі ад нумара да нумара.

**Міхаіл СОЛАПАЎ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай акадэміі музыкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступленне М. МАРЭЦКАГА з гітарыстам Я. ГРЫДЗЮШКАМ; з ансамблем педагогаў Мінскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Я. ВАЛАСЮКА.**

**Фота Сяргея БУРАВА.**

НАРОДНЫЯ АБРАДЫ

# «НА ВЯЛІКА СВЯТА, НА ВЯЛІКДЗЕНЬ — ВЯСНА КРАСНА НА ЎВЕСЬ СВЕТ!»

Вялікае шчасце ў жыцці нашага народа, што галоўнае гадавое свята Вялікдзень (сама назва гаворыць аб гэтым) стала яшчэ і дзяржаўным святам, а намнога раней — найважнейшым хрысціянскім святам уваскрэсення Хрыстова.

Глыбока сімвалічна, што такую сустрэчу Новага земляробчага года па самаму старажытнаму сонечна-веснавому календару захавалі нашы валачобныя песні з іх мажорна-гімнічнымі аптымістычнымі напевамі. У іх бруіць бярозавы сок росквіту прыроды для новага вітка жыцця, а іх магічныя прыпевы-замовы робяць ва ўяўленні жадаемае рэальным. Ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі маляўніча-жывапісныя гурты валачобнікаў пяюць славу ратайскай працы, узвышаюць гаспадара, гаспадыню, хлопца-паніча, дзяўчыну-паненку, славяць светлыя вясновыя святы. Загаловак гэтага артыкула з песні прадаўжаецца наступным чынам:

**Ішлі, прыйшлі валачобнічкі,**
**Вясна красна на ўвесь свет!**
**Дачакаліся светлых святочкаў,**
**Вясна красна на ўвесь свет!**
**Светлых святочкаў-велікоднічкаў,**
**Вясна красна на ўвесь свет!**
**Першага свята — святога Вялічка,**
**Вясна красна на ўвесь свет!**
**Другога свята — святога Юр'я,**
**Вясна красна на ўвесь свет!**
**Трэцяга свята — святога Міколу,**
**Вясна красна на ўвесь свет!**

У песні апяваюцца яшчэ два святы вясны: жывёлагадоўчае свята апекуна хатняй жывёлы Юр'я — 6 траўня і свята канюшкоў — 22 траўня (апошняе маляўніча выпісана ў тургенеўскім "Бежыным лузе").

Вялікдзень як перасоўнае свята стала пунктам адліку для ўсіх веснавых святаў. Паколькі ён звязаны з месяцавым календаром (з яго павінен быў пачынацца маладзік) і хрысціянскім (абавязкова павінна было быць у нядзелю-"воскресение"), таму рухалася ў розныя гады ад 4 красавіка і да 8 траўня. Але часцей за ўсё Вялічка прыпадае на сярэдзіну або другую палавіну красавіка.

Восьмы тыдзень ад Вялікадня быў Масленкай, за якой ішло сем тыдняў Вялікага перадвелікоднага посту. Кожны з тыдняў меў таксама сваю назву: зборны, сярэдні, храшчаты, весны, пахвальны, вербны, велікодны. Сем наступных пасля Вялікадня тыдняў заканчваліся "зялёнымі святкамі": Семіком і Русальным тыднямі, паміж якімі стаяла Тройца з яе ваджэннем Куста — сімвалам урадлівасці.

Вялікдзень як сустрэча Новага года па сонечнаму календару, відаць, у дахрысціянскія часы святкаваўся на Саракі ў дзень веснавога раўнадзенства (20 ці 22 сакавіка), але з-за названых вышэй абставін стаў перасоўным. Калі з Масленкі найбольш актыўна пачыналі на ўзгорках у песеньках-вяснянках доўгім прыгожым прызыўным гукам "У-у-у-у-у!" гукаць-зваць вясну, то з Вялікадня, зрабіўшы засеўкі, пачыналі вадзіць, часам на полі або вакол яго, магічныя на ўрадлівасць, добры ўраджай карагоды, праводзіць гульні, сімвалічна хаваць маланку — стралу Перуна. "Вялічка — чырвона яечка". Апошняе, як сімвал вечнага жыцця, складае сутнасць свята Вялікадня. Яйкі красілі лушпіннем з цыбулі, свяцілі ў царкве, іх качалі, з імі гулялі ў біткі, распісвалі самымі фантастычнымі ўзорамі — рабілі пісанкі.

У апошнюю перадвелікодную нядзелю, якую называлі Вербніцай, асвячалі ў царкве галінкі распушчанай вярбы. Ёю потым білі адзін аднаго тройчы, прыгаворваючы: "Вярба б'е, не я б'ю, за тыдзень — Вялікдзень, ужо недалечка чырвона яечка, будзь здароў, не ўмірай, Вялікадня дачакай. Будзь прыгожы, як вярба; будзь здаровы, як вада; будзь багаты, як зямля!"

Асвячоным галінкам вярбы, як і грамнічным свечкам і са-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# «НА ВЯЛІКА СВЯТА, НА ВЯЛІКДЗЕНЬ — ВЯСНА КРАСНА НА ЎВЕСЬ СВЕТ!»

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

рачынскім галёпам (выпякаліся ў форме птушыных лапак), надавалася потым увесь год магічнае ахоўнае значэнне.

У перадвелікодную ноч (у палякаў і чэхаў увесь Вялікдзень называюць Вялікая ноч) у час Усяночнай не спалі, палілі вогнішчы, ладзілі гульні ў чаканні ўзыходу сонца: лічылася, што яно на золку "іграе". Гаспадыні фарбавалі яйкі, пяклі велікодны пірог ("паску"), церлі хрэн. Абавязковыя абрадавыя стравы ў нядзелю зранку асвячалі ў царкве, пасля чаго ўрачыста разгаўляліся і пачыналі валачобнічаць — ля кожнай хаты пад вокнамі спяваць:

**Ды на першы дзень святых**
**Вялікадней,**
**Хрыстос васкрэс, сын Божы!***
**Ішлі-прыйшлі валачобнічкі!**
**Красны малойцы ды гуляючы.**
**Слаўнага пана ды пытаючы,**
**Слаўнага пана, пана Йвана.**
**Дапытаўшыся, прыйшлі**
**пад ваконца.**
**— Ой ці ж дома ты, слаўне пане!**
**Ці спіш, ці ляжыш, адпачываеш!**
**Калі спіш ці ляжыш — дык**
**Бог з табою.**
**А не спіш, не ляжыш — дык**
**спявай са мною.**

**Хоць ён і дома — не абзываецца.**
**У новай каморы прыбіраецца.**
**Надзяе боты слуцкай работы.**
**Надзяе шубу сабалёвую.**
**Надзяе шапку бабровую.**
**Сустракае светлых святочкаў,**
**Светлых святочкаў —**
**Велікоднічкаў.**
**Адзавіся, слаўны пане.**
**Ці ўслых табе песня**
**старасвецкая!**
**Не тамі ты нас — падары ж ты нас.**
**Срэбра-злота ды не важачы.**
**Срэбра-злота самі злічым,**
**Слаўнага пана ўзвялічым.**
**Песня спета празі нова лета.**
**Празі новага і вясёлага.**

У цікавым артыкуле 1936 года пра валачобныя песні выдатны знаўца і збіральнік Рыгор Шырма пісаў, што адпаведна народнаму светапогляду святыя ў гэтых песнях займаюцца святой справай: Юрый — па межах ходзіць ды жыта родзіць, Мікола — даглядае, а Пятро (12 жніўня) — зажынае. "А Божая маці жыта жала — жыта жала ды ў снапочкі клала".

А вось які унікальны баладны хрысціянізаваны сюжэт валачобнай песні запісаны ад Дубеневіч Галіны Пятроўны (маці выдатнай выканаўцы беларускіх народных песень Тамары Ліхадзіеўскай) у вёсцы Сахавічы Лагойскага раёна. Яна спявалася на золку Вялікадня на могілках:

**Вялік святы на[illegible]дзень настаў,**
**Ісус Хрыстос [illegible]ба ўстаў,**



**Хрыстос васкрос, Хрыстос**
**васкрос, Хрыстос васкрос.****

**Пайшоў жа ён жабруючы,**
**Добрых людзей турбуючы.**

**Прыйшоў жа ён да Дунаю,**
**А там дзеўка ваду брала.**

**— Падай, дзеўка, Богу вады,**
**Памыць Богу рукі-ногі.**

**Дзеўка Бога не ўвазнала,**
**Богу яна адказала.**

**— Гэта вада нячыстая,**
**Лісцём-дрэвам западала.**

**— Гэта дзеўка нячэсная,**
**Дзевяць сыноў нарадзіла.**

**Дзевяць сыноў нарадзіла,**
**У эты Дунай патапіла.**

Гледзячы праўдзе ў вочы, трэба прызнаць, што свята "Вялічка — чырвона яечка", хоць і найбольш самабытная і прыгожая з'ява святочнай культуры, але аказалася да пачатку нацыянальнага адраджэння вельмі і вельмі забытай, нават адсутнай у жывым бытаванні. Але абазначэнне свята як дзяржаўнага дало выдатны творчы імпульс вяртанню яго ў жыццё, святочную культуру. Цяпер ужо не дзіва, калі можна ўбачыць маляўнічы гурт валачобнікаў: запявала з магутным голасам, за ім падхвойнічкі, якія спяваюць магічны прыпеў, музыкі — скрыпка, дудка, бубен, гармонік, кларнет, цымбалы (або проста траісты склад), механоша і іншыя тэатралізаваныя персанажы. Як і ў старыя часы, спяваюць пад вокнамі валачобныя песні, услаўляюць росквіт прыроды, працу ратая, гаспадарлівасць у светлы дзень уваскрэсення Хрыстова як сімвала вечнага духоўнага жыцця. Асабліва прыгожа яны адраджаюцца, вяртаюцца ў святочны кантэкст, інсцэніруюцца ў фальклорных калектывах цэнтральнай і паўночнай Беларусі. Лепшымі прыкладамі можна назваць фальклорныя калектывы з вёсак Крывое Талачынскага, Юрацішкі Іўеўскага, Рудзенск Пухавіцкага, Морач Клецкага раёнаў і дзесяткі іншых вясковых калектываў.

На высокім мастацкім узроўні гучаць валачобныя песні ў дзесятках фальклорных калектываў Мінска. Лепшыя сярод іх: "Ліцьвіны", "Дзіва", "Рунь", "Кірмаш", Нацыянальны ансамбль фальклору пры Беларускім саюзе фалькларыстаў, шматлікія дзіцячыя калектывы. Актыўна адраджаецца валачобніцтва ў "Лявонах" з горада Воранава, "Гарадніцы", "Гудах" і іншых фальклорных калектывах Гродзеншчыны і Гародні.

[illegible]ля дзесяці гадоў валачобніцтва штогод паказваецца ў тэлепраграме "Запрашаем на вячоркі", а Беларускі саюз фалькларыстаў ужо пяты год праводзіць фальклорныя фес[illegible]лі "Вялікдзень". Апошні з [illegible] прыгожа праходзіў на адкрытай прасторы, канцэртных пляцоўках парку імя Горкага і выклікаў шырокае адабрэнне і прыхільнасць грамадскасці, у ім прынялі ўдзел лепшыя фальклорныя калектывы і тысячы людзей.

У гэтым годзе "Вялікдзень-97" таксама пройдзе ў парку імя Горкага.

Сябры! Да нас на Вялічку ў светлую нядзелю 27 красавіка!

А ў тэлепраграме "Запрашаем на вячоркі" ў выдатным увасабленні фальклорным тэатрам "Матуліна песня" (кіраўнік Тэрэза Адамовіч) вы пабачыце валачобніцтва з вёскі Жытомля Гарадзенскага раёна.

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**





**НА ЗДЫМКАХ: біццё яек. Васіль ЛІЦЬВІНКА і студэнты з Індыі і Конга; Вялікдзень у Свіслачы на Гродзеншчыне; валачобнікі з вёскі Шыпілавічы Любанскага раёна — радзімы выдатнага фалькларыста П. Шпілеўскага.**

**Фота Анатоля КАЛЯДЫ.**

* Тут і далей прыпевы ў валачобных песнях спяваюцца пасля кожнага радка.

** Прыпеў спяваецца пасля кожнага двухрадкоўя.

---

**Мікола АЛТУХОЎ**

## ЗВІНІЦЬ ВЯСНА

**Звініць вясна на ўзгорках,**
**Над просінню рачной.**
**Здаецца, што і зоркі**
**Звіняць перад зарой.**

**Звініць вясна ў дубровах,**
**У сініх ручаях,**
**І сонейкам вясновым**
**Лясны гушчар прапах.**

**Калі вятрыска рэзкі**
**Кранае бор крадком,**
**Здаецца, і пралескі**
**Звіняць над ручаём.**

**Вясна траву галубіць,**
**У росах зіхаціць,**
**А сонца, быццам бубен,**
**Над шатамі звініць.**

**Прырода ажывае,**
**Зімовы гоніць сон,**
**І ў сэрцы нарастае**
**Вясновы гэты звон.**

## РАДАСЦЬ

**Якая прыгожая раніца!**
**Свет радасці, поўны жыцця,**
**А сонейка нам усміхаецца,**
**Нібыта матулі дзіця.**

**Лясок развітаўся з сумётамі,**
**Знікае з палян сівізна.**
**Запахла зямліца грымотамі,**
**Вясёлкай запахла яна.**

**Здаецца, пунсовую ружаю**
**Цвіце на зары небакрай,**
**Вясёлай вясною абуджаны**
**І поле, і рэчка, і гай.**

**Над светлай, празрыстай сінечаю**
**Каля клапатлівай ракі**
**Спяваюць ад ранку да вечара**
**Прыбыўшыя ў тэрмін шпакі.**

**Спяваюць салісты пярнатыя,**
**Здаецца, гавораць яны:**
**Вясна не бывае без радасці,**
**А радасць — без любай вясны.**

## ПРЫЛЯЦЕЛІ ПТУШКІ

**На зары прыгожай, чыстай**
**У лясы і на палі**
**Хуткакрылыя салісты**
**Сёння ў тэрмін прыбылі.**

**Заспявала ўся лясная**
**Клапатлівая сям'я.**
**І здаецца, што спявае**
**Ім сустрэчны гімн зямля.**

---

## УРАГАН НАД БРЭСТЧЫНАЙ

У ноч з 11 на 12 красавіка над тэрыторыяй вобласці пранёсся вецер са скорасцю да 20 метраў у секунду. У выніку разгулу стыхіі разбураны пабудовы ў гаспадарках шасці раёнаў.

Людскіх ахвяр няма. Вецер знёс дахі кароўнікаў, майстэрняў, выбіў шыбы цяпліц, пакінуў без святла жыхароў трох вёсак Жабінкаўскага раёна, пашкодзіў апоры тэлефоннай сувязі.

---

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 603. Падпісана да друку 21.4.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.